## Эдзіку Мазько

Цыгарэтай апошняй дапаліцца дзень недарэчны.
Кубак вусны апёк, толькі каваю не наталіў.
Трыццаць пятую ноч адлятае мой сябар у вечнасць,
Цераз некалькі дзён ён ужо не пачуе Зямлі.

Без яго ў Беларусі няўтульна, маркотна, няўцешна,
Трыццаць пятую ноч Беларусі яго не стае.
Ён ляціць ад Зямлі і складае апошнія вершы,
Што, як знічкі, згараюць у цёмных нябёсах яе.

26–27.07.11

## Міхалу Рукевічу
(акраверш)

**Р**ужовы фламінга, гарбатая сумная птушка,
**А**шчэпкамі крылаў, пабітых бязлітасным шротам,
**Д**ацягне да Індыі скрозь забайкальскія пушчы,
**З**а тысячы ўзмахаў – да родных індыйскіх чаротаў,
**І** будзе карміць птушанят малаком і крывёю.
**М**не б крылаў такіх хоць аскепкі – у неба за ёю,
**А**ле не не поўдзень – дамоў у гняздо радавое.

*Міхал Рукевіч – філамат,*
*сябра «Саюза ваенных сяброў»,*
*сасланы на катаргу пад Іркуцк у 1826 г.*

Калі памру, – дай бог, каб незаўчасна, –
І калі смерць мая цябе кране,
Прыходзь на развітанне да мяне
І прынясі букет апошніх астраў.

Мо будзе восень – сумная старая,
Якая шэрань сцеле па начах.
Прасцей ідзецца ў свой апошні шлях,
Калі з табою лета паміpae.

Ты пакладзі іх на маю магілу
Між папяровых кветак і вянкоў,
Каб я адчуў з-пад глыбіні пяскоў:
Як не душу, хоць кветкі падарыла.

8.08.11

## Шаптуха

Ірыне Шыбека

Памерлыя хаціны,
на плошчы – чарнабыл, –
Наведаў я мясціны,
Дзе у маленстве быў.

Язмін, шыпшына, мальвы –
Здзічэлы палісад -
Амаль што пахавалі
Бабулін дом і сад.

За домам, дзе прысады,
Віецца дзікі хмель
І спіць, згубіўшы статак,
Драўляны журавель.

Нявідная палоска
Як рыска на вадзе –
Сцяжына цераз вёску
На могілкі вядзе.

Пайду па той сцяжыне,
Калі б і не хацеў,
Праз водар канюшыны,
Пад конікавы спеў.

На могілках з ускраю,
Дзе паламаны плот,
Шалёны бэз буяе
Ужо не першы год.

У бэзавай альтане,
Дзе жоўтыя пяскі,
Шаптуху пахавалі
Калісьці землякі.

Над хворымі шаптала,
Над жытам у палях,
Ды цяжка памірала –
Здымалі з хаты дах.

Не зарастае глеба,
Чарнеюць рушнікі, –
Не прабачае неба
Яўдохіны грахі.

Ці то з другой прычыны –
Наспела паміраць,
А не было жанчыны
Замовы перадаць.

Ні ўнучкі, ні нявесткі,
А два былі сыны:
Адзін ляжыць пад Брэстам,
Другі – каля Дзісны.

У бэзавай альтане,
Дзе жоўтыя пяскі,
Замовы пахавалі
З шаптухай землякі.

Як некалі малечай,
Я не стрымаю слёз:
Бэз надмагільны шэпча
На мой шчаслівы лёс.

9.08.11

## Крэва

Камяні прамаўчаць, камяні прамаўляць не ўмеюць.
А калі б спавядаліся – хто б тую споведзь прыняў?
Лёхі цёмныя тут і пасвет над дзвярыма не грэе,
Не ўбачыць ніхто, як сканаю на тых камянях...

Недзе коні ляцяць! Недзе коні ляцяць бліскавіцай.
Ім услед не пагоня – ваўчыная зграя імкне.
Дай ім, Панна Марыя, сабе не нагнаць дыхавіцу!
Ды з-за гэтых муроў ты, напэўна, не чуеш мяне...

Хай ляцяць! Хай ляцяць найдалей ад праклятага Крэва,
Дзе, крывёю залітыя, моўчкі стаяць камяні,
Дзе забойца і здраднік чакае сваю каралеву,
Нудна выюць сабакі і знічаў палаюць агні...

Тут няма абразоў – я б да іх папаўзла на каленах
І прасіла, каб коням наўпрост працярэбілі шлях,
І яшчэ – каб хоць нехта ўзгадаў пра ліцвінку Алену,
Пра каханне яе і пра помсту ў крэўскіх мурах...

*Алена – жанчына, якая памянялася вопраткай і месцам з князем Вітаўтам, каб ён мог збегчы з вязніцы ў Крэве.*

10.08.11

## Кароль і каваль

Кароль у пушчы бавіў дзень.
Лася асочнікі загналі,
Харты раз'юшана брахалі,
Стагнаў знясілены алень.

Тарпанаў тропілі паны –
Так удаліся ў пушчы ловы!
Ды вось бяда – згубіў падкову
У ягомосця вараны.

«Дзе тут каваль?» – кароль злуе.
Абозны ўзвіўся: «Ў пары вёрстах
Ёсць неблагі каваль у вёсцы,
Мо варанога падкуе».

Кунтушы, пёры, жупаны -
Па сенажаці, бы па шляху,
Пыхлівым велічным аршакам
Ляцяць да вёсачкі паны.

Палае ў горане агонь.
Каваль, рукасты і рахманы,
Загад выконвае вацьпана:
Каб не кульгаў любімы конь.

Кавадла, малаток, чакан.
Нішто яму – скаваць падкову,
Вухналь – і той ужо гатовы, –
Хай задаволіцца вацьпан.

«Чым да каня, – кароль сказаў, –
Перш пакажы сваю работу.
Ці то падкова? Дрэнь! Брыдота!
Аберуч я яе зламаў!»

Прыдомак «Моцны» Аўгуст меў,
Бо гнуў падковы для забавы,
А не за тое, што дзяржаву
Launch Ператварыў у брудны хлеў.

І зноў у горане агонь.
Каваль, рукасты і рахманы,
Загад выконвае вацьпана:
Каб не кульгаў любімы конь.

Ужо чацвёртая ляціць
У горан гнутая падкова.
Забава лепшая за ловы –
З кавальскае работы кпіць.

«Ды годзе! Жарты да пары!
Якая ёсць – мацуй, кавале!
За жарт вясёлы срэбны талер
Ад ласкі панскае бяры!»

Каваль вацьпанскі талер ўзяў.
На дар зірнуўшы з неахвотай,
Сказаў: «Агідная брыдота!» –
І  напалам яго зламаў.

З далоні ў чорных мазалях
Дзве палавінкі ад манеты
З гербом каронным і партрэтам
Ляцелі ў ногі караля.

14.08.11

Ніхто не скажа, дзе днявуюць сны,
Куды яны над ранкам адлятаюць:
У цёплы край ці ў ледзяную замець,
У заўтра ці ў краіну даўніны.

І што на крылах прынясуць адтуль:
Надзею, радасць, пацалунак, гора
Ці то шаленства і трызненне Гойі,
Прадбачанне, бязглуздае пакуль.

Якія іх чакаюць караблі
І чым пасля яны напоўняць ветразь:
Ці Стывенсану казкаю пра верас,
Ці андалузскай спёкай – для Далі,

Ці мне знянацку – водарам сасны?
З якіх лясоў, маўклівых і далёкіх,
З якіх азёр, празрыстых і глыбокіх,
Пра Беларусь ляцяць у сэрца сны?

15.08.11

## Балада пра піва

Зміцеру Яцкевічу

Бурмістр задумліва маўчаў,
Войт толькі соп і хмурыў бровы,
На тварах райцаў быў адчай,
А пісару заціла мову.

«Ну, што рабіць? Яны ідуць.
Іх, мабыць, тысяч з гакам трыццаць,
І нам, як ты не каламуць,
Ад гэтай зграі не адбіцца,» –

Бурмістр паскроб у барадзе.
Вайна па свеце карагодзіць.
То шведы, то маскаль ідзе –
Сваволяць, як свіння ў гародзе,

А Магілёў - то за Пятра,
То Карлу браму адчыняе,
Ці то маскаль крычыць «Ура!»,
То швед курганы насыпае.

І вось па Карлавых слядах
Маскоўскі цар шыбуе ў горад.
Віталі шведаў? Дык па дах
Налье і бізуноў, і гора.

«А можа неяк падкупіць?
Маскаль ахвоч да падарункаў...» –
«На трыццаць тысяч дзе ж здабыць
Такую процьму пачастунку?» –

«У гэтым годзе недарод.
Дзе ўзяць на столькі горлаў мяса?» –
Пытанні, нібы азярод,
Гародзіў магістрат няшчасны.

Але знянацку праз вусы
Прамовіў Федаровіч-ратман:
«Слабое жыта, дрэнь аўсы,
Затое – во! – ячмень выдатны!

Не маем грошай падкупіць, –
Маскаль хаця і надта хцівы,
А звыклы на халяву піць, –
Дык мы яго сустрэнем півам!»

Гудзе, бы вулей, Магілёў:
Нябачанае ў свеце дзіва –
Каб да прыходу маскалёў
Зварыць такую працьму піва!

Але ад ратушы – загад!
Ды што загад – шкада галоваў!
Разводзяць солад брат і сват,
А горад – як вялізны бровар!

Стаў магістрат напагатоў:
Бурмістр, і войт, і рада з лавай…
Цар не пайшоў на Магілёў,
А рушыў проста на Палтаву.

Няма цароў і каралёў,
А не забыўся час шчаслівы –
Як за здароўе маскалёў
Пілі амаль тры тыдні піва.

17–18.08.11

## Вязальшчыцы гільяціны

«Няхай пакрочаць пад сцягамі –
Змаганне ў радасць маладым.
А мы слабыя, мы з пруткамі
Пад гільяцінай пасядзім.

Хай ворагаў сваіх зацятых
Яны скуюць у ланцугі,
Хай аддадуць у рукі ката, –
Пад стук нажа звіняць пруткі. –

А калі іх адораць славай
Паскуднікаў і махляроў,
Пад іхняй плахай мы на лавах
Не адкладзём сваіх пруткоў.

Хай рэвалюцыі сусветнай
Нясуць чырвоныя сцягі,
Імкліва звяжам мы шкарпэткі
Ў такт кулямётнае чаргі.

Калі іх згнояць на лубянках,
Наш не абрынецца сусвет –
Спляцём «Вясёлыя рабяты»
І загалоўкі для газет».

Пад кожнай бруднай гільяцінай
Ва ўсе часы, ва ўсе вякі
Звіняць гадзіна па гадзіне
Непераможныя пруткі.

21.08.11

Рыдала маці на труне,
А сон чароўным быў і зыбкім.
У тым дзівосным, доўгім сне
Яму прымроілася Скрыпка.
Амаль нячутная была
І з нейкай вышыні крылатай
Яна вяла яго, вяла
Настойлівымі *pizzicato*.
Ужо адплакана імша
І ксёндз сказаў: «Ite, missa est».
Не адыходзіла душа –
Ён слухаў, як Яна спявае.
У той дзіцячае труне
Ён быў і д'яблам, і святыняй…
Капрыз на прывіднай струне
Іграў маленькі Паганіні.

22.11.08

*«Ite, missa est» – «ідзіце, імша скончана» –*
*заключныя словы каталіцкай імшы.*
*У дзесяцігадовым узросце Паганіні перажыў клінічную смерць,*
*яго не пахавалі, бо заўважылі, як ён варухнуў пальцам.*

Мае сябры старыя па адным
Няўхільна адыходзяць ва ўспаміны.
Так склаўся лёс. Напэўна, так павінна.
Ды ў беззваротным адыходзе тым
З сабой уносяць ад мяне часціну.

Мяне ўсё болей там, а меней тут,
Бо кожны адыход мяне нявечыць.
Там, пэўна, ім шчаслівей і бяспечней,
Там, пэўна, ні турбот і ні пакут,
І час там вымяраюць словам «вечнасць».

Без іх мяне ўсё меней на зямлі,
Мізэрней думкі і мацней правіны.
Нарэшце будзе нейкая гадзіна –
Я зразумею: ўсё маё ўзялі,
Тады і я з сабой вазьму часціну.

23.08.11

Жнівеньскія зоры быццам вочы,
Што віжуюць з неба за зямлёю.
Выйдзі на прастору зорнай ноччу –
Хтосьці сочыць нагары за ёю.
Ці прыязна, а магчыма, злосна
Нашыя ўчынкі падлічае,
На абаку, што з нябесных косткаў,
Мерыць цяжар шчасця і адчаю.
Чорнай косткай лягуць боль і здрада,
Белай косткай - вера і надзея,
Ў бок адзін – хрысціцель з Галаада,
Ў бок другі – сікарый з Іўдзеі.
Адмысловым падае ўзорам:
Чорны, белы, белы, зноўку чорны, –
Косткі лягуць, як захочуць зоры.

28.08.11

## Агент

Употай, як шпіён ад СНД,
Я быў накіраваны з Мінска ў Штаты,
Каб там разведаць усе сакрэты НАТА
Як суперзасакрэчаны агент.

Праз Польшчу, помню, я прайшоў цішком,
Пасля крадком праз немцаў прабіраўся.
Дарогай больш з гародаў харчаваўся:
Часцей цыбуляй, зрэдку – агурком.

Я помню, быў бурлівы акіян,
На бервяне сваім я плыў наперад,
Лавіў макрэль, з парткоў зрабіўшы нерат,
І зберагаў ад вільгаці наган.

Мяне прынесла хваляй пад Нью-Ёрк,
Ды лёс мой склаўся жорстка і акрутна:
«Ідзі, сынок, шпіёніць без валюты,
Бо ў продажы няма!» – сказаў маёр.

Калі ў Нью-Ёрк пайшоў здаваць «зайцоў»,
Іх не ўзялі, а вось мяне – забралі.
Вы перадайце ў Мінск: агент правален,
Ну і маёру пару цёплых слоў.

Не гавары, што любіш, памаўчы.
Налі віна і келіх уздымі.
Мы потым пагаворым ні аб чым,
Што, пэўна, нецікава нам самім.

Каханая, мы побач так даўно.
Я вывучыў на памяць кожны жэст,
Што часам любіш белае віно,
Антонаўку, суніцы і агрэст,

Што любіш ноч і зоры над жнівом,
Лясное возера і навагодні снег,
Што вельмі любіш свой утульны дом
І што, магчыма, любіш і мяне.

Не гавары, што любіш. Пі віно.
Што мне з любові? Сумная яна.
Ты не кахаеш. Дык усё адно.
Давай маўчаць. Налі і мне віна.

30.08.11

Не гавары, што любіш, памаўчы.
Налі віна і келіх уздымі.
Мы потым пагаворым ні аб чым,
Што, пэўна, нецікава нам самім.

Каханы мой, мы побач так даўно.
Я ведаю на памяць кожны жэст,
Што часам любіш белае віно,
Антонаўку, апенькі і агрэст,

Што любіш ранак, сонца над вадой,
Лясное возера і навагодні снег,
Парэчанскі духмяны сырадой
І што, магчыма, любіш і мяне.

Не гавары, што любіш. Пі віно.
Што мне з любові? Сумная яна.
Ты не кахаеш. Дык усё адно.
Давай маўчаць. Налі і мне віна.

Я пасаджу шыпшыну пад акном,
Не ружу, а нязломную шыпшыну,
Хай перамаганосна і нязгінна
Яна ад злыбед сцеражэ мой дом.

Няхай цвіце на весну ля вакна,
Някідкая, адважная шыпшына,
Хай сноў вянок штоноч звівае сыну
І пра мяне клапоціцца яна.

Хай начаруе ясны небасхіл, –
Ёй шчасціць Бог за шчырасць і адвагу.
І хай яшчэ запаліць гронкі ягад,
Нібыта прошчу за мае грахі.

31.08.11

## Кропка погляду

Ён розум меў, ды неяк нетаропка
Перамяніў пункт погляду на кропку.
І з гэтай нерухомае купіны
Ацэньваў навакольныя глыбіні.

Для наваколля з кожнае нагоды
Ён выбраў кропку, раз і назаўсёды.
Цяпер з купіны гучна і выразна
Цячэ струмень бліскучага маразму.

1.09.11

Мой дамавік, напэўна, захварэў,
Бо неяк сумна і няўтульна ў хаце.
Сядзіць у мяккіх тапках і халаце
І марыць, каб хоць хто яго сагрэў.

Я ў справах розных з ранку да цямна,
Мне не з рукі перапыняць заняткі.
Мой дамавік збярэ свае манаткі
І кіне хату. Буду жыць адна.

Павольна дом наважыцца старэць,
З тугі па ім рыпець пачнуць масніцы,
Панікне столь, пагорбяцца паліцы
І лямпам не захочацца гарэць.

І я пайду тады яго шукаць,
У родзічаў пытацца, у знаёмых,
Каб, калі зойдзе, клікалі дадому,
І для яго ласункі пакідаць.

Пасля вярнуся ў апусцелы дом
Паліць агонь самотна у каміне
І шкадаваць аб страчанай часіне,
Што бавіць я магла з дамавіком.

1.09.11

## «Душа тэатра»

Быў карнавал зімовы. Як заўсёды,
Шалела шляхта з гэтае нагоды.
Балы і фэсты, шумныя вячэры,
Нявест сабе шукалі кавалеры,
Аркестры гралі весела і палка.
Напрыканцы быў карнавал маршалка.
Я быў тады на гэтым карнавале,
Куды і нас, загонавых, пазвалі.

Яна была як ранішняя птушка
Ў сукенцы з лебядзінаю апушкай.
На тым святочным навагоднім бале
Мы з ёю двойчы нават размаўлялі.
Я закахаўся ў вытанчанасць рухаў,
У вочы, у якіх і смех і скруха,
У лёгкасць постаці, у голас мілагучны -
Я ўпершыню адчуў такую лучнасць.

Але настаў і час велікапосны.
Пасля Папельцу, па марозе злосным
Два тыдні мы вучылі ў п’есах ролі,
А потым падаліся на гастролі.
Такая доля марная, ліхвярка:
Хоць шляхціч, а ні вёскі, ні фальварка,
Таму з нястачы, злыбеды і гора
Прыйшлося мне падацца у акцёры.

На ролях інжэню, бо пачатковы,
Без бенефісаў, з гажай выпадковай,
Я з хлеба на ваду перабіваўся.
І вось бяда – ў графіню закахаўся.

Усмешка, яе рукі, вусны, вочы
Мне сны трызненнем поўнілі штоночы,
А ўдзень, нібыта княжыч Папялушку,
Шукаў вачыма белую апушку.

Тады ўсё лета мы гастралявалі,
У Шчучыне, у Вільні выступалі,
Але даход з паказаў быў нявелькі,
Таму падзарабіць рашылі ў Зэльве.
Там, як вядома, быў кірмаш вялізны,
Мільён плацілі аднаго акцызу,
З Расіі, з Польшчы там бывалі госці,
Маглі на іх мы зарабіць хоць штосьці.

Давалі мы «Гульца» месье Дзюканжа,
Калі ў партэры я яе заўважыў.
Ундзіну я сваю пазнаў адразу.
Яна была з бацькамі на паказе,
Як матылёк, лунаў бялюткі веер,
А постаццю была нібыта фея.
І на мяне найшло тады зацьменне –
Свой выхад прапусціў у трэцяй сцэне.

На восень падаліся зноў у Гродна,
Там быў глядач ды і будынак годны.
З паказам новым і пры поўнай зале
Сезон мы тэатральны пачыналі.
Я паглядаў у залу з-за кулісы,
Як іншыя акцёры і актрысы.
Я памятаю гэта і па сёння:
Яна сядзела злева, на балконе,

У белай сукні, на рамёнах шалік.
Ды не адна. Быў побач з ёй маршалак.
І мне, нібы па твары аплявухай,
Субрэткі голас зашаптаў у вуха:
«Стары і брыдкі, бачыш, на балконе?
Арэндаваў ён ложу ў тым сезоне.
І часу, ды і грошай не шкадуе,
Абы пабавіць жонку маладую».

Я рушыў з-за кулісаў, нібы мёртвы,
Самлелы, ледзь дабраўся да грымёрнай.
У першага аманта пад люстэркам
Быў пісталет набіты – у куфэрку.
Шчаміла сэрца, білася, балела...
Каб замаўчала, я прыклаў і – стрэліў...
Цяпер вы ведаеце ўсё. Мне падзяліцца
Хацелася сваёю таямніцай.

Калі з тэатра забіралі цела,
Мая душа застацца захацела.
Я тут застаўся – духам, цішынёю,
За сцэнай шэптам, ціхаю хадою.
Я тут жыву, чарую і варожу,
А па начах яе пільную ложу.
Шукаю, як старая пабірушка,
Атлас бялюткі з лёгкаю апушкай.

2.09.11

Я праважаю восенню буслоў,
Нібы радню, што адлятае ў вырай,
І калі толькі не забуду слоў,
Ім ад душы я пажадаю шчыра
Прыязных ветраў і магутных крылаў.

Яшчэ вяртання дружнай грамадой
На родныя абжытыя буслянкі,
Да ціхіх рэчак з соннаю вадой,
Да родных багнаў і туманных ранкаў,
Да хат, дзе не спяваюць калыханкі.

Вяртайцеся да роднае зямлі!
Хай кожны дом крылом асвеціць бусел,
Каб не маячыў страшны дзень, калі
Зямля заплача ў горычы і скрусе,
Што ўжо няма на свеце беларусаў.

2.09.11

Сказаў мой сябар (сябар?) пра мяне:
«Ты ведаеш, цябе не існуе.
Ты цень маўклівы недзе там, за Летай,
Не чалавек, «унмэнш», і не паэта.
Няма ў цябе ніякае культуры,
Ні музыкі і ні літаратуры.
Каму яна патрэбна, тая мова?
Старым у вёсках толькі для размовы.
Няма ўжо беларускае культуры –
Я кніжкі здаў усе ў макулатуру.
Ідзі і страш, прывід, у іншым месцы.
Цябе няма, бо я цябе закрэсліў».
Цяпер люстэрка паддаю іспыту:
Ці ёсць у ім трывалы мой адбітак?
Здаецца, ёсць – жывы, вясёлы з віду
І цалкам не падобны да прывіда.

3.09.11

Ля далёкага мора,
Дзе пах памаранчаў і зёлак,
Мне прысніўся мой горад,
Прыгожы, як споведзь анёла,
Дзе, як прасніца, плошча
З яе сямісвечнікам вуліц
Да сябе, нібы прошчу,
Узнёслыя храмы прытуліць.

Іх стаяць караблі,
Нібы свечкі на яснай меноры,
Каб на грэшнай Зямлі
Менш было непрыязні і гора.
Дай нам бог, каб змаглі
Зберагчы гэты горад анёлы,
Каб плылі караблі
Сінагогі, царквы і касцёла.

4.09.11

## Балада пра карнета

Дэпеша ехала ў сталіцу
З ваеннай поштай ажно з Прусаў.
Фельд'егер мкнуў, як бліскавіца, –
Пакет давезці ў тэрмін мусіў.
А ў тым пакеце – спешны рапарт,
Аб тым, што зроблена знявага
Дзвюм самым важным рэчам запар –
Дваранскай годнасці і сцягу;
Што зганьбіў гонар афіцэрскі
Герой вайны з Напалеонам:
«Обоссаны корнетом Энским
Полка гусарского знамёна».*
Палкоўнік прыкладаў рашэнне,
Што афіцэрскі суд прызначыў,
Бо страціў афіцэр сумленне
Учынкам гэтакім сабачым.
Прапанавалася ў рашэнні
За страшнае злачынства гэта
(Ішла вайна – не да звальнення)
Ушчэнт разжалаваць карнета.**
Пасля ў прыкладзеным дадатку
Была падзея апісана,
Якім бяссорамным парадкам
Былі «знамёна обоссаны».
Полк на пастоі быў у Прусах,
І ў доме бюргера ў мансардзе,
Як гэта часцяком у рускіх,
Пілі шампанскае гусары.
Тут на балкон (бо выпіў многа)
Карнет пайшоў глытнуць паветра.
Раз ноч, дык без перасцярогі

Адразу ён схадзіў да ветру.
А пад балконам з каравулам
Сцягі стаялі палкавыя.
І ганьба сталася – надула,
Вятры прынеслі франтавыя!
Пытанне мелася ў паперы:
«Ці не парушыцца рэгламент,
Як пойдзе полк цяпер наперад
Пад «обоссаными» сцягамі?»

*У аснову пакладзены рэальны факт:*
*1813 г., Пруская кампанія.*
** Цытата з дакумента.*
***Карнета нельга было разжалаваць, бо гэта ніжэйшы афіцэрскі чын, на якім мог быць дваранін у кавалерыі ў той час.*

У павуцінні вуліц як заўгодна
Заблытаешся, дзе б ты ні пайшоў, –
Так калісь разрасталася Гародня
Пад бэрламі князёў і каралёў.
Калі ісці наўпрост Дамініканскай,
Дык праваруч убачыш добры дом,
Такі дыхтоўны, чысты, быццам панскі,
Відаць, у ім дастатак п'юць нагбом.

А гаспадар – банкір, вядомы ў месце,
У магістраце лаўнік колькі год,
І нават шыльд на доме не павесіў,
Бо без таго туды ідзе народ.
Мяняюць талер, солід і дукаты,
Яфімкі, барацінкі – сотні коп.
Мяняе срэбра-золата багаты,
А медзякі сюды нясе халоп.

Але надоесь у карчме мясцовай,
Той, што на Рынку, – добрая карчма! –
Мне давялося весці з ім размову
За куфлем піва, мабыць, да цямна.
Была як споведзь гэтая бяседа,
Ніякавата нават мне было,
Бо я не ксёндз, каб спавядаць суседа
І адпускаць правіны за сталом.

Магчыма, я не зразумеў дакладна,
Чым занядужаў гэты багацей:
Дастатак мае, ды і ў доме ладна,
Сыны і жонка – ўсё як у людзей.

Але іржа, ён кажа, точыць сэрца,
Нібы змяя атрутная грызе,
І ад яе няма куды падзецца –
Ні сну, ні паратунку анідзе.

Штодня, казаў, іду да езуітаў,
Ды не таму, што моцны каталік.
Іду маліцца богу Яна Шміта,
Які зрабіў нябёсы на зямлі.
Ці можна ажывіць сухое дрэва?
Ці, можа, Дух Святы, ці Бог Айцец,
Ці то ў Нябёсах Прасвятая Дзева
Яму вастрылі зорамі разец?

А як засну, дык мроіцца, казаў ён,
Што гэта я працую ў алтары,
Што гэта я Пятра і Паўла стаўлю
І Глорыю святую на гары.
Што гэта мне разец дае ў далоні
Святы анёл, каб я рабіў багоў,
Што гэта я ў касцёльнае сутонне
Нясу агмень з нябесных берагоў.

А як прачнуся, ён казаў, дык зранку
Ў далонях не разец, а марны грош,
Дукат ці талер, толькі не кіянка.
Талант! Талант! Не долата, не нож!
А як памру, што па сабе пакіну?
Гаршчок дукатаў? Камяніцу? Пляц?
Фундуш касцёльны? Ці кліентаў сыну?
Ці гэта варта высілкаў і прац?

Ён замаўчаў. Падняўся і пакрочыў.
Са скрухаю я ўслед яму глядзеў
І думаў, што, напэўна, хтось сурочыў,
Ад зайздрасці адпомсціцца схацеў.
А ён штодня выходзіць з камяніцы,
Вітаецца са мною мімаходзь,
А потым – да касцёла, памаліцца.
Мо дзякаваць,
Што шчасце даў Гасподзь?

6 –7.09.11

Збіраліся на раду на Агоры
Анапест з ямбам, дактыль і харэй
І вырашылі адляцець за мора,
Неважна за якое, – бы далей.

«Не памятаюць нас і не шануюць,
Бывае, лаянку размерам піша хам.
Нявечаць, гвалцяць, нішчаць і катуюць,
Дзе хочаш клеяць, нават да рэклам».

Маўчаў гекзаметр, плакаў амфібрахій,
Драткцвет стапу зламаную люляў.
«Збярэмся разам, лахі ды пад пахі,
Скалоцім клін падобна жураўлям.

Мы птушкі мажныя, не марныя калібры,
Бо верш без нас – бязглуздая мура...»
А з-за вугла на іх глядзеў верлібр
І радасна далоні паціраў.

7.09.11

## Міцкевіч

Ён так хацеў вярнуцца на Радзіму,
Да Свіцязі, да Нёмана – сюды.
Але прывезлі ў іншую краіну,
Здаецца, блізкі край, але чужы.

Ён марыў і ў Парыжы, і ў Стамбуле,
Што прыме навагрудская зямля,
А прах яго ў суседні край вярнулі.
Міцкевіч быў ліцвін, а не паляк.

Ляжаць парэшткі ў кракаўскім Вавелі,
Але ці там цяпер паэт? Ды не!
Суседзям дасталося толькі цела –
Душа яго на Свіцязі жыве.

7.09.11. 16.50-17.00

## Гульня

*Давай з табою пагуляем у паэтаў...*
*Т. Дзям'янава*

Давай з табою забаўляцца словам.
Як смальтай, класці цені і адценні:
Каменьчык болю, перлінку натхнення,
Вугольчык смутку, костачку сумнення,
Ашчэпак жалю, дошчачку замовы.

Давай з табою забаўляцца рытмам,
Цамянкай мацаваць у повязь словы:
Гудзеннем вулля, гулам рэк вясновых,
Капежным спевам, шумам пушч сасновых
І сэрца закаханага малітвай.

Мы возьмем за аснову выпадковасць,
Дзіцячую забаву і трызненне...
І Ён лічыў у першыя імгненні,
Што гэта ўсё – звычайнае блазненне.
І пагуляў...
Было ў пачатку Слова.

8. 09. 11

## Вялікдзень

Сказалі мне, што, пэўна, я памру.
Ці буду жыць. Палова на палову.
Сказалі мне – калі,
Сказалі мне – чаму,
Сказаць – навошта? –
Не знайшліся словы.

Нястрашна паміраць. Наогул, не.
Калі ты знаеш тэрмін і прычыну.
Страшней за ўсё губляць,
Ды па сваёй віне,
Дачку і ненароджанага сына.

А ноччу дабравесцілі званы
І мне, напэўна, вызванілі выжыць.
І я цяпер жыву
У кайданах віны.
Нясу свой крыж
І радуюся крыжу.

8.09.11

Я так хачу, каб надышла зіма,
Калі кантрастам дом і наваколле:
Камін нагрэты, цёплае вуголле,
А за фіранкай – холад і туман.

За келіхам сагрэтага віна
Складаць радкі ці музыку паслухаць.
За вокнамі шалее завіруха,
А тут пануюць лад і цеплыня.

Ні мітусні, ні роспачы няма,
А толькі светлы сум каля каміна.
І музыка, і пах гваздзікі віннай…
Я так хачу, каб надышла зіма.

9.09.11

Былыя сябры – бы аднойчы забытыя кнігі,
Якія на верхніх паліцах у шафе стаялі:
Мы іх забываем, як фабулу, сэнс і інтрыгу,
Калі неўзабаве раман да канца дачыталі.

Мы помнім фрагменты – усмешку, расстанне,
сустрэчу,
Ці нейкую фразу, ці погляд, ці нейкае слова,
Бяседу сумесную недзе ўлетку, падвечар,
Ды нават і гэта да Леты плыве паступова.

І будзе няёмкасць пры іх нечаканым з'яўленні,
І даўнія словы затояцца недзе ў гартані.
Мы будзем маўчаць, разумеючы, – з нейкім
здзіўленнем
Цяпер ліхаманкава кнігу старую гартаем.

9.09.11

## Настаўнік

Раскрыю далоні і ў неба падкіну малое –
Ляці! Паспрабуй свае крылы на восеньскім ветры!
А потым вяртайся дадому, на родныя гоні,
Яшчэ недарослы,  яшчэ дарастаць на палетках.

Яшчэ жаўтароты, слабыя і розум і дзюба,
Яшчэ пад крыло ў небяспеку ляціш прытуліцца.
Расці, набірайся арлінай адвагі, галуба,
А покуль высока не носяць маленькія крыльцы.

Надыдзе гадзіна, ты сам адарвешся ад глебы,
На крылах магутных сягнеш да нябеснага ўлоння.
Але з вышыні, з неабсяжнага зорнага неба,
Уніз паглядзі, дзе табе раскрываю далоні.

10.09.11

## Гара

Ізноў вярнуся да старых сцягоў,
Цяпер ужо без мары і імпэту,
Бо бачу ідалаў замест былых багоў,
І шлях да іх губляе сэнс і мэту.

Я дацягну, напэўна, на гару
Камень, што мне на плечы лёг і давіць.
А на гары знясілена памру,
І той камень на могілках паставяць.

11.09.11

Ісці з гары – ўсе ногі абаб'еш,
З-пад ног ляцяць каменьчыкі ў пустэчу.
Паўзеш уніз да зеўры, нібы клешч, –
Ці карк зламаеш, ці нагу знявечыш.

Куды латвей ўзбірацца на гару:
Чапляешся пазногцямі за глебу,
Няхай ужо амаль не чуеш рук,
Але паўзеш, бо там убачыш неба.

12.09.11

Калі на старце размінала ногі,
З усмешкай нехта ў плечы гаварыў:
«На гору ўзыдзеш, там усе дарогі
Вядуць з гары».

Перавязала лоб фінальнай стужкай –
Ажыццявіла колішні намер.
Я на гары.
Я ўсё зрабіла слушна.

І што цяпер?

## Даўняе паданне

Старая Ганулят на ганку ля хаты стаяла,
Глядзела, як войскі праз вёску на захад ішлі.
З вялізным канвоем цягнуўся вазок генерала,
А недзе гарэла Масква і ўздыхалі Філі.

Ужо па дамах не хадзілі ў камзолах з паперы,
У рызах царкоўных, у ботах з чужое нагі
Прамёрзлыя ўшчэнт чарнавокія цені-машэры,
А ў полі паболела іх безымянных магіл.

Замецена снегам, вілася за вёскай дарога,
Цягнулася войска – гусары, драгуны, абоз,
І раптам спыніліся побач з Ганулёю дрогі:
Параненых рускіх на сене вазніца прывёз.

У хату занеслі, на пол, на палаці паклалі
Дваіх афіцэраў гусарскіх, зусім маладых.
Спяшалася войска, параненых тут пакідалі –
Няхай ачуняюць, а потым дагоняць сваіх.

Два тыдні мінула. Ужо загаіліся раны,
Ганулят варыла гусарам чабор і аер.
Збіраліся ехаць назаўтра, як зоймецца ранак,
Далёкай дарогай да новых зімовых кватэр.

А ранкам на ганку адзін, малады і бязвусы,
Спытаў у Ганулі, ужо пакідаючы дом:
«Скажы мне, бабуля, пад кім будзе лепш беларусам:
Пад бэрлам французаў ці, можа, пад рускім царом?»
Гануля ўздыхнула і вочы да неба падняла:
«Расійцы ўслед за французам далёка пайшлі.
Вы, двое, вяртайцеся, вас бы заўсёды вітала,
А цар застанецца няхай у французскай зямлі».

12.09.11

Маюць водар адметны і смак вераснёўскія мроі,
Іх не зблытаеш з чэрвеньскай марай і майскай
надзеяй,
Пахнуць лісцем апалым, пажоўклай травой
і спакоем,
Хрызантэмаю, астрай і блякла-ружовай касмеяй.

Маюць смак, як смуга, што віецца над зжатым
палеткам,
Як гарчынка на вуснах, што першая шэрань пакіне,
Крылы маюць слабыя, каб горда лунаць у паветры,
І варожаць бяседы і цёплы агонь у каміне.

Мы ад іх не чакаем узлётаў і новых адкрыццяў,
Ні цікавых вандровак, ні мора далёкага хваляў,
Ім утульна і так, толькі б жыць і ні з кім
не сварыцца,
І каб іхні спакой мы ў сабе да зімы захавалі.

13.09.11

## Выгнанцы

Яны адыходзілі з родных маёнткаў, з фальваркаў –
Рамантыкі, геніі, соль беларускай зямлі –
У чорных сурдутах, у ветрам падшытых чамарках,
Хто ехаў на захад, каго па этапах вялі.

Апошнія крокі рабілі па родных алеях
Да брамы на ўездзе і дом аглядалі адтуль,
З калонамі ганак, абсаджаны белай спірэяй,
І ценем на ім – сілуэты бацькоў і матуль.

Яны адыходзілі з нашай зямлі назаўсёды,
Каб стацца для іншых паэтам, героем, суддзёй,
Яны адыходзілі з хаты, з зямлі і з народа,
З гісторыі нашай, каб болей не значыцца ў ёй.

13.09.11

## Балада пра паэта

Ён быў паэт. Так пра яго пісалі
У слоўніках, што выдаваў СП.
Раз-пораз зборнік вершыкаў ці баек,
Ды п'есу ў вершах накрапаць паспеў.

Кватэра ў Мінску, лецішча, машына,
Рэдактарскае крэсла і аклад,
І жонка ёсць, і так... адна жанчына,
Маўляў, па-людску ўсё, у акурат.

На лецішча ён ездзіў электрычкай
Не ад таго, што шкадаваў бензін,
А проста так, бо меў такую звычку –
Ісці з прыпынку сцежкай між асін.

Там думалася лёгка і няспешна,
Шапталі дрэвы ціха, нібы ў сне.
Ён думаў ні аб чым, але, канешне,
Складаў у думках байку ці санет.

І ўсё цякло спакойна і памалу:
Работа, дом і сцежка цераз лес.
Ды з нейкіх пор не ездзіць ён з вакзала
І не друкуе зборнікаў і п'ес.

Вось як было. Ён ехаў у вагоне,
Вясна тады, як помніцца, была,
І на забытым богам перагоне
У электрычку карліца ўвайшла.

Яна была амаль што невідушчай
І бруднай, быццам непрыбраны хлеў,
У вопратцы вакзальнай пабірушкі,
Што з рук людскіх жабрацкі мае хлеб.

Ды падалося: ў твары састарэлым
Знаёма нешта быццам бы здавён.
І сэрца варухнулася нясмела:
«Мо запытаць імя?» – падумаў ён.

Яна ступала цяжка, бы пад грузам,
Сваім пытаннем ён яе спыніў.
«Дык я твая, – яна сказала, – Муза.
Такую маеш.  Сам такой зрабіў».

24.08.11

*«Глядзіце, заяц варыць піва», —*
*Жартуюць людзі між сабой.*
*Ул. Караткевіч*

Туманы, каханы, туманы,
Будзе дзень пагодны і шчаслівы.
На балоце заяц варыць піва,
Дымам высцілае дываны.
Ён ад піва сам ужо п'яны,
Паліць бровар шчыра і зацята,
З мацярдушкай, чабаром ды мятай
Гэтыя хмяльныя туманы.

Не спазнаць жаночае віны,
Што каханы адышоў над раннем.
Каб ніхто не ведаў аб спатканні,
Накрываюць сцежкі туманы.

Туманы, каханая мая,
Туманы ўздымаюцца ў нізінах
І паўзуць па травах, па лагчынах,
Крыюць сцежку, дзе праходзіў я.
Туманы, каханая мая,
Нам з табой адзіная ахова.
Пэўна, заяц недзе паліць бровар,
Туманы пускае па гаях,

Каб не распазнаць слядоў маіх,
Не дазнаць табе дурнога слова
Аб распусце маладых удоваў
І аб саламянай долі іх.

## Ах, гэты баль!

*Ці то свінні хадзілі,*
*ці то шляхта балявала*
*(Беларуская прымаўка)*

– Ах, гэты баль! Мазуркі, катыльёны,
Няспынна грала музыка з балкона!
Пан возны так прытопваў абцасам,
Што на халявах трэсліся кутасы!
Ляцеў як вецер у мазурку зацным,
Каля паненак віўся лавеласам,
Хоць і стары ўжо, і паставай мажны,
Але ў падскоку лёгкі і куражны.

*- Во, глянь, як тлусты бораў, не іначай,*
*А ўсё казлом каля паненак скача!*
*А хай трасца ў пяты таму танцору,*
*Пабіў увесь паркет сваёю шпорай!*
*Ізноў цягнуць з мястэчка жыда Мовшу,*
*Каб той паркет адгабляваць хоць трошкі!*

– Ах, гэты баль! Харунжы быў галантны,
У бальным фраку ён здаваўся франтам!
Быў у Парыжы, Англію аб’ездзіў
І да паненак мовіў «мон шэр лэдзі»,
Ды мне адной з усіх прынёс ён ружы!
Такі ўжо дэндзі гэты пан харунжы!

*- Бамбіза у каптане, ды без крысаў,*
*Глядзіць, як кот, смятану скраўшы з місы!*
*А каб цябе і звіла і скруціла!*
*Залез у сад зімовы да Данілы,*

*Каб толькі ружы рваў, а то, халера,*
*Пераламаў з вяргінямі шпалеры!*

– Ах, гэты баль! Я поспех мела велькі!
Затанчыла тры пары пантафелькаў,
Пальчаткі тры разы перамяніла,
А пан харунжы быў бязмежна мілы!
Ён веер мой трымаў і з газу шалік,
Пакуль з кузінай сукні мы мянялі.

*- От жа паненкі! Чыстыя лахудры!*
*Натрэслі пёраў, стужак, кветак, пудры,*
*А колькі гэтых драных чаравікаў!*
*Каб іх у пекле ды гарачым цвікам!*
*Усё атлас ды стужкі да калена!*
*Каб у азадак добрага палена!*

– Ах, гэты баль! Шыкоўная вячэра!
Які плязір і камільфо манераў!
Усе «Віват!» гаспадару крычалі
І аб падлогу кубкі разбівалі.
А пан харунжы, як залётнік знаны,
З маёй пантофлі піць хацеў шампана!

*- Набілі шкла, засмецілі падлогу,*
*Мо месяц прыбірацца, далібога!*
*Як свінні на вячэры балявалі,*
*Усе хмызнякі за домам заблявалі!*
*А той, без крысаў, хай яго халера,*
*На стол перакуліў графін з мадэрай!*

– Ах, гэты баль! Такая асалода,
Такая незвычайная прыгода!

Гатова я штовечар гэтак бавіць!
Няма нічога лепшага за балі!
Тут баль яшчэ праз тыдзень быць павінен,
Бо мае гаспадыня імяніны!

*– Нарэшце параз'ехаліся, гіцлі,*
*Каб іх пярун аж да калена выцяў!*
*Дуды барысаўскія, гундары, свінюхі!*
*Злятаюцца ў маёнтак нібы мухі!*
*Ледзь вытрымалі гэты баль апошні,*
*А тут яшчэ адзін! Збягу... у Польшчу!*

## «Мазл-тов»

(«Шчасця вам» – яўрэйская вясельная песня)

*Клязмеру Мішу Шабтаю са Слоніма*

Грае аркестрык,
Льецца мелодыя,
Скрыпка, кларнет, барабан,
Як пры вяселлі
ці іншай нагодзе –
Мовша, Ісак і Абрам.

Вуліцай крочыць яўрэйскі аркестрык
Перад калонай людской,
Пешшу ідуць да бліжэйшага места,
Дзе накіруе канвой.
Потым – вагоны і шлях у Дахау,
Печы, пакута і боль.
«Мазл-тов» гучыць, і кларнет уздыхае,
Узяўшы высокую «соль».

14.09.11

Пакідаем сябе ў люстэрках
Дзень па дню і за годам год.
Амальгама здымае мерку
З нашых клопатаў і турбот,
З нашай радасці і з надзеі,
З нашых думак і нашых страт,
Шые нам, як спрадвек умее,
І зусім не шкадуе лат,
Новых зморшчак, і новых ценяў,
І карункаў блакітных вен,
Срэбра сыпле на скроні жменяй,
Не хаваючы перамен.
Колькі нашых адлюстраванняў
Захавала сівое тло!
Як жывецца ім, гэтым зданям,
Што калісьці забрала шкло?

15.09.11

Быў звычай традыцыйны ў беларусаў:
Пры пошасцях, калі няма надзеі,
Дзеля выратавання бабы мусяць
Зрабіць аднавяскоўцам абыдзеннік.

За дзень адзін з адбеленай кудзелі
Напрасці на уток і на аснову,
Насноўдаць, каб старэйшыя паспелі
Саткаць рушнік з таемнаю замовай.

А ўвечары, пакуль не села сонца,
Пад рушнікам, што выткалі майстрыхі,
Прайсці павінны ўсе аднавяскоўцы,
Бо толькі так пакіне вёску ліха.

Якой атруты выспела насенне,
Што беларус – ці сонны, ці то млосны?
Ці не пара ўзгадаць пра абыдзеннік
І ці не час жанчынам ставіць кросны?

18.09.11

Я вяртаюся ў Горад з дарослых вандровак,
Як дахаты, дзе любяць маё і мяне,
Дзе не трэба саромецца слёзаў і гора,
А ў заблытаных вуліцах шчасце жыве.

Я сыду з цягніка на няўтульным  вакзале,
І захочацца зняць з launch пeратомленых ног,
Нібы сын марнатраўны, старыя сандалі
Перад тым, як ступіць на бацькоўскі парог.

19.09.11

Гаварыла бабуля мая:
«Перамелецца ўсё:
Непрыемнасці, клопаты, даўнія крыўды.
Ты жыві, як млынар
каля млына свайго,
Што працуе нястрымана
і бесперарыўна».

Меле млын мае дні,
Мае ночы ў муку
І па ветры пускае, не сыплючы ў кубел,
Меле ўпарта каханне і шчасце ў труху.
Жыта меней, як меней жыцця на таку.
Меле млын –
На чаканую згубу.

Усё хутчэй яго крылы,
Нібы карусель,
На ліхіх скразняках матыляецца жорнаў.
Перамелецца лёс і жыццё пакрысе,
І здранцвее вятрак,
Покуль зноў
Не напоўняць.

19.09.11

Ціхай ноччу пайду цераз плошчу пустую
Да любімай кавярні за кубачкам кавы,
Брукаванка мой крок нетаропкі пачуе
За начным туманом і смугою гаркавай.

Я пайду за ўспамінам, які не збярогся,
Аб сябрах, аб каханні, якое забыта,
За надзейным цяплом ад сяброўскага локця,
За сваім патаемным няспраўджаным мітам.

Цвіллю палай лістоты замуліцца памяць,
І загубіцца след, дзе хадзіла юнацтва.
Не знайсці той кавярні і час не паправіць.
Я вярнуся дамоў і запару *Lavazza*.

22.09.11

Мне так дарэчы мыліца – нядоўга,
Не кожны дзень (інакш і жыць не трэба) –
Апірышча, каб адпачыць дарогай,
Каб уздыхнуць і папрасіць у Бога
Перш, чым пайду да пекла або ў неба.

Я папрашу не за сябе, нямогу, –
За тых, каго люблю, – так будзе слушна.
Я папрашу з пакорай Пана Бога,
Каб не аралі лёс крывым нарогам,
Хай дасць ім гонар, волю, моц і мужнасць.

І калі толькі Ён мяне пачуе
І дасць, што я прашу, ад Боскай волі,
Тады далей спакойна павандрую
Да неба ці да пекла – дзе скіруе,
А мыліцу адкіну – ўжо даволі.

23.09.11

Рэгі затанчыць лісцё на падворку –
Скончыцца блюз,
Восень прысунецца мокрым аўторкам
На Беларусь.
Час раўнадзенства адважаны,
шалі
ў небе ўзышлі.
Поўніцца ветраным восеньскім шалам
Ветразь Зямлі.

24.09.11

Гарадская брукоўка – не лепшая глеба для дрэва,
Але нашае вырасла, цягнучы ў неба галлё.
Па мячы, па кудзелі – ўсе прашчуры з даўніх
карэнняў
Мне шляхі працярэбілі ў горад з вясковых палёў.

Мне бывала ў дзяцінстве экзотыкай лета на вёсцы,
Да бабуляў з дзядулямі ехаць, змяняць гарады.
І прадзедавы пляц у мястэчку дагэтуль збярогся,
На які мой пра-прадзед Парфен спадкаеміў правы.

Зразумець не магу я, з якіх векапомных асноваў
У душы ўздымаецца сум, калі ў восеньскі дзень
Чарадою ляцяць жаўрукі ад палеткаў вясковых
Над каменным мурашнікам – стылым гняздоўем
людзей.

25.09.11

## Шкло і камень

На народзіны гарэзніцы-князёўне
Падарыў ваяр з бацькоўскае дружыны
Падарунак адмысловы і шыкоўны,
Што ў пасаг бяруць дарослыя дзяўчыны.

Бранзалеты і каралі, завушніцы –
Незвычайнай прыгажосці і узору,
Шкла празрыстага спляліся тонка ніці
Карагодам светлым месяца і зорак.

Ясна-сонечны, зялёны і блакітны –
Каляровай песняй красак на узлеску,
Нібы шклом, што па-майстэрску перавіта,
Агарнулі красавіцкія пралескі.

А праз тыдні два да крэпасці набегам
Падышлі навалай чорнаю крыжакі,
Безліч рыцараў з харугвамі і кнехты –
Рваць Літву, нібы шалёныя сабакі.

Стромы бераг мылі нёманскія хвалі,
А на ім – гняздо арлінае – Гародня,
Дзе Літву сваёй крывёй абараняллі
Ад крыжакаў – бескарысліва і годна.

І адбіліся, адхлынула навала,
Пацягнулася на поўнач чорным роем,
Але смерць сваю даніну пазбірала
У Гародні сярод вояў і не вояў.

Паў дружыннік, бы магутнаю сцяною
Кашталяна закрываючы у сечы,
А гарэзніцы-князёўне у пакоях
Выпадковая страла прабіла плечы.

У старой царкве, разбітай навальніцай,
Іх абодвух, як сужоных, пахавалі,
Меч паклалі ля ваярскае дзясніцы
І дзяўчынку ў бранзалетах і каралях.

Так ляжаць яны стагоддзі па-над Нёмнам,
Нібы сімвал нескаронае Гародні,
Дзе любоў дарue моц і веліч годным,
Што бароняць свой народ і горад родны.

26.09.11

*У Ніжняй царкве, якая знаходзіцца ў гродзенскім Старым замку і якая была разбіта навальніцай, знойдзена пахаванне ваяра з мячом і побач – 13–14- гадовай дзяўчынкі ў шкляных пацерках і бранзалетах (гродзенскае шкло).*

Калі стрэлкі гадзінніка спыняць свой бег на апоўначы,
На імгненні «ніколі» адзінаю рыскай застыгнуць,
І гадзіннік збянтэжана сціхне, дванаццаць адзвонячы,
Спіну ноч, нібы котка, што ходзіць самотная, выгне.

Можа здарыцца ўсё, калі «сёння» становіцца «ўчора» і
Калі «заўтра» змяняе свой водар надзеі на «сёння»,
Мы адлічым дванаццаць і моўчкі чакаем, пакорныя,
Покуль стрэлкі жыццё нам ізноў ціхамірна пагоняць.

26–27.09.11

У чаканні прыезду сяброў прыбіраецца дом,
Маладзее, нібыта сцірае з вуглоў павуцінне,
Мые люстры і вокны і чысціць ад пылу карціны,
Каб прыязна заззяць кожнай лямпай і кожным акном.

Ён не любіць самоту, ён хутка губляе настрой,
Калі ціха ў пакоях і ў зале не грае гітара,
Ён сябе адчувае закінутым, стылым і марным,
Калі поручні лесвіц не грэюцца добрай рукой.

Я збіраю гасцей, каб нам з домам было весялей,
Мы накрыем сталы, прывітаем цяпло і гасцінна.
Лагаднее мой дом і назад пераводзіць гадзіннік,
І на некалькі год я раблюся тады маладзей.

27.09.11

## Крэда

Свечкі запалены,
Лямпы пагашаны,
Час, каб зайграць,
Клавіш праталіны,
Божа, як страшна,
Рук не стрымаць.
Пэўна, бемоль тут,
А потым арпеджыа,
Пальцы як лёд,
Трохі павольна,
А тут апярэджваю
Цэлы акорд.
Ды не глядзіце мне ў плечы настойліва –
Марны дакор.
Можаце стрэліць, я вас не няволю –
Я не тапёр.
Пэўна, у ноты не траплю і схлушу, –
Бог не заб’е.
Так, як умею, як чую і мушу,
Граю сябе.

27.09.11

## Барысу Клейну

Ён мне сказаў на мосце цераз Нёман:
«Прыгожыя ёсць рэкі, ды – другія,
Я многа бачыў іх здалёк ад дому
І зразумеў шаленства настальгіі.

Прыгожая рака, цячэ шырока,
Красуецца празрыстым мнагаводдзем,
І мост высокі, і відаць далёка,
Але не так яна пад мост заходзіць.

Няслушна, касабока, непрыгожа,
Не так, як трэба, бо не так, як Нёман,
Ды шчэ – няма на беразе Каложы,
І замкаў двух, і лукавін знаёмых».

Ён уздыхнуў і паглядзеў на бераг,
Яўрэй з Гародні, мудры і дарослы.
Яго чакала мітусня Амерык,
Дзе  новы дом – ці дом? – далёкі Бостан.

29.09.11

Два сокалы ліnялых, яснавокіх,
Аднолькава разумных і драпежных,
Адзін прастуе крылы пад аблокі,
Другі, асвоены, па праву мне належыць.

Адзін мне спадарожнікам на ловах,
Прыносіць паляўнічую удачу
І ганарыцца цяжарам аковаў,
Другі мяне сваёй здабычай бачыць.

Штодня ў нябёсы паглядаю пільна,
Штодня адну разгадваю загадку:
Хто з тых дваіх сюды скіруе крылы
І што за сокал сядзе на пальчатку?

1–2.10.11

## Алесю Самаленчуку

Крыўды забудуцца, –
час, бы хірург, зацыроўвае раны,
Хіба не ўспомню, чаму так балела калісьці.
Ды застанецца адно – адчуванне падману,
І пажаданне: як зойдзе ў хату, дык выйсці.

2.10.11

## Шэкспір

Быць ці не быць
Пісьменнікам, паэтам,
Ці каліту пакласці на магілу?
Няхай напіша рыжая санеты
І лорд-філосаф  выдае манеты
На танную паперу і чарніла.
Хай абыдвое цешацца паўзмрокам,
Працятыя адзінай хцівай дзідай.
Ім хопіць славы, напісанай рокам,
Крыві, падману, хабару, сурокаў
І вопыту, што дадзены іспытам.
А Глобус не міне майго імя
І застанецца лепшым надмагіллем,
Бо скажуць праз стагоддзі: гэта Вільям,
Яны жылі ў той час, калі і я.

2.10.11

Паплач над Беларуссю, ну, паплач!
Як даспадобы гэты гучны лямант!
Зрабі агляд памылак і нястач
І вінаваць уладу і парламент.

Паплач над ёю горкаю слязой,
Маўляў, гібее, матухна, гібее!
Ёй пахавальны ткаць пачні сувой
І вінаваць Расею і яўрэяў.

Паплач, як хочаш. Рукі залamі.
Ёй не карціць, каб нехта там скуголіў.
Яна жыве, бо не забіць зямлі,
І будзе вольнай, як захоча волі.

3.10.11

## Вадзіму,

з павагай

А памятаеш кільку і партвейн,
І танны сыр, і цыгарэты «Космас»,
Калі з нас кожны быў амаль Энштэйн,
Яшчэ не зразумелы для дарослых.
Мы геніі былі ў сямнаццаць год,
Мы кіравалі лёсамі сусвету,
Пад той партвейн планет змянялі ход
І распалялі зоркі цыгарэтай.
Мы так кахалі, нібы сто Джульет,
А зайздрасць пазначалі кулакамі,
З нас кожны быў філосаф і паэт,
Фейхтвангер, Фолкнер, Фрыш і Муракамі.
І што куды падзелася пасля,
Калі сусвет на нас сябе абрынуў?
Будзённасць, шэрасць, рукі ў мазалях.
Партвейн як быў, ды цыгарэты – «Прыма».

5. 10.11

Наспее дождж на восеньскіх палетках,
Нап'юцца хмары шэрасцю смугі
І паляцяць на пушчы і лугі
Змываць сляды, што пакідала лета.

Стракатасць дрэваў, каляровасць красак
На шэры колер будуць замяняць,
Змываць вясёлку, сонейка змываць
І грунтаваць бязлітасна ляўкасам,

Каб на Каляды ўся зямля застыла,
Нібыта неакрэслены стафаж.
А новы атрымаецца пейзаж,
Як на халсціну пакладуць бялілы.

7.10.11

## Аксане Цімашэнка

З удзячнасцю

Дзяўчына закахалася у восень,
У буйства фарбаў, што недаўгавечна,
У золата бяроз, у ранак позні
І ў погляды каштанавай малечы.

Яна сябе шукае ў наваколлі.
Ні лапістыя клёны, ні рабіны,
Што на галлі запальваюць вуголле,
Не перакажуць сутнасці жанчыны.

Вярба задумліва, нібыта маладая,
З пакорай і адданасцю кабечай
Пад ветрам, што лісцё яе сплятае,
Касу зялёную люляе ў сінечы.

Няхай  камусьці мрояцца  асінкі,
А іншай – да бяроз душа кладзецца,
Вярба спляла на шчасце павуцінку
І ёй адной сваё адкрыла сэрца.

Нібы са змрочнага нябыту магікане,
Якім, чым быць рабамі, лепш загінуць,
Няведама адкуль, але ўзнікаюць
На Беларусі новыя ліцвіны.

Яшчэ навобмацак сваю шукаюць існасць,
Перабіраюць міфы і герояў
І лічаць ВКЛ сваёй калыскай,
А прашчурамі – кніжнікаў і вояў.

На свой узрост прымерваюць рыштунак,
Што пасаваў харугвам пад Грунвальдам,
І ладзяцца ісці на паратунак
І ваяваць за волю на асфальце.

На іх гляджу і светла, і памысна,
Ды прыйдзе нечакана разуменне,
Што не знікаюць хвалі ад калісьці
Маёй рукою кінутых каменняў.

28.09.11

Мы мелі розных каралёў.
Быў Шаўль Валь – кароль жыдоўскі,
Тры дні ў дзяржаве рэй ён вёў
І ўсё рабіў, маўляў, па-боску.

А перад ім сядзеў мадзьяр,
Ён быў свавольны і ваярскі,
Прывёў з сабой сваіх баяр,
Што ўсё рабілі па-мадзьярску.

Пасля – паважны Жыгімонт.
Здаецца, быў бы і някепскі,
Ды не любіў ліцвінаў ён
І ўсё рабіў у нас па-шведску.

Яшчэ саксонец быў у нас,
За ім другі, па волі панскай.
Як кажуць, правіў намі Сас
І ўсё рабіў у нас па-саску.

Здаецца, быў яшчэ паляк,
Ён на Маскву выводзіў войскі,
З Мілана жонку меў той лях
І ўсё рабіў у нас па-польску.

Каля Міра, каб хто спытаў,
Сядзеў кароль, як кажуць, хамскі,
Бо цыганамі кіраваў
І з імі радзіў па-цыганску.

Як паглядзіш на той хаўрус,
Дык нібыта з гарохам груца.
Каб быў на троне беларус,
Было б у нас усё па-людску.

30.08.11

Кастрычнік. Я агонь палю ў каміне,
Цяпло ідзе, па дому разлілося,
Закрыю дзверы, не пакіну шчылін,
Каб цераз іх не заглядала восень.

Каб не сачыла пільна жоўтым вокам
За сном маім і думкі не студзіла,
Каб не хадзіла ноччу каля вокан
Дажджом халодным, шэрым і панылым.

Так буду жыць. Трываць, пакуль Каляды,
Мой цень няхай наведвае работу,
Гаворыць нешта, з ладам ці без ладу,
І цягне воз дэпрэсіі і слоты.

А я пакуль пабуду пры каміне,
Тут цёпла, тут утульна і лагодна.
Там, за вакном, хай восень гаспадыняй, –
Маёй душы вяснова і пагодна.

7.10.11

Як зіма заспявае *mezzo*,
Каб з тугой ва ўнісон гучаць,
Ты прыходзь да мяне пагрэцца,
Ля агню майго памаўчаць.

Будзе коўдра, камін і вечар,
Я налію ў келіх віна –
Святкаваць няблага сустрэчу
Ад апоўначы да відна.

Памаўчым пра тое, што студзень
Нам ад шчасця не даў ключы,
І аб тым, што між намі будзе,
І аб тым, што ёсць, памаўчым.

А калі адсвяткуем свята,
Да агню паклічам сяброў
Размяняць маўчання дукаты
На бяседнае серабро.

18–22. 02.11

## Толіку Брусэвічу,

якi падарыў мне гадзіннік

Я па тваім гадзінніку жыву,
Ён мой расклад жыццёвы вызначае,
Мне наваражыць жаваронка ў маі,
А ў лістападзе – сонную саву.

Заўчасна восень крочыць у сады
Круціць лісцё на вераснёўскім бале,
Бо на тваім гадзінніку Купалле,
Зялёны гай і птушкі ля вады.

Падуладны час гадзінніку твайму,
Ён валадар жыцця і маладосці.
Дарма ў садах лісцём гуляе восень –
Я па тваім гадзінніку жыву.

15–27.09.10

## Беларускі дом

Недзе пасярэдзіне Еўропы,
Недзе паміж Бугам і Дняпром
Дзень па дню рупліва, нетаропка
Бацькаў дабудоўваю дом.

Гэтак жа няспешна і сумленна,
Каб у хаце ўсё было як след,
Для  падмурка ладзілі каменні
Дзед Кууль і Прахарэнка-дзед.

Ім услед украінская маці
Пабяліла столі дабяла.
Кожнага насення па лапаце
Мне сям'я, як спадчыну, дала.

Беларускі дом небеларусы
Гэтак будавалі для сябе -
Сцены не адоляць землятрусы
І віхур дахоўку не саб'е.

Пабудуй мне, татка, дом,
Каб былі ў ім печ і ганак,
Вокны з кіпенем фіранак
І падлога з дыванам.

Каб антонаўка была
І салодкая маліна,
Каб з-пад веснічак сцяжына
Выбягала да сяла.

Будзе дзень, калі міне
Век, наканаваны лёсам,
Твой дамочак у Нябёсах
Дачакаецца мяне.

18.10.08

## Валодзю

(акраверш)

**З**вініць на гітары струна – і спыняецца час,
**А**корды ўзносяць у неба крыштальную сцежку,
**Х**рыстос басаног прабяжыцца і кожнаму з нас
**А**дпусціць грахі, а музыку адорыць усмешкай.
**Р**аскрыецца неба вясёлкай ад хмары да хмары
**А**дзіным – малітве, жаданню, надзеі і мары:
**Ў**здыхнуць і не дыхаць, пакуль не замоўкне гітара.

## Раство, якога не было

Шэры горад сціраю з заплаканай шыбы,
Тут сяброўства на «нібы» і шчырасць на «нібы»,
Тут у снежні без снега пад штучнай ялінкай
З Пугачовай запар калядуе катрынка,
У батлейцы блазнуюць дурныя паяцы.
Бог з нябёсаў зірнуў – расхацеў нараджацца.

15–16. 01.07

## Балада пра Бога

Было вясёлае жыццё.
Шчаслівы Бог паставіў свечкі,
Нябёсы з раніцы працёр,
Каб дагадзіць сваім авечкам.

Ён бутэрбродам даў загад
Не падаць маслам на падлогу,
Зварыў для дзетак шакалад,
Здароўе дараваў нямогам.

Хлусню ён знішчыў і ману,
Сумленне пасяліўшы ў крамах,
А ліхаманку ды вайну
Паслаў на піва да Абрама,

Па справядлівасці судзіў
Злачынцаў, здраднікаў і хамаў,
А ўсіх астатніх папрасіў
Каменняў назбіраць для храма.

Яны пабудавалі храм
З бетону, пластыку і сталі,
Вялізны крыж зрабілі там
І на крыжы Яго распялі.

А звон гудзеў: «Дамоў, дамоў, дамоў!» –
Чужынскі голас зваў мяне дахаты
Скажоным рэхам гродзенскіх званоў,
І дождж дзяліў Нямеччыну на краты.
Паштоўка з незабытае вайны...
Са змрочных кірхаў, нібы пад прымусам,
Нямецкія пыхлівыя званы
Прасілі прабачэння ў беларусаў.

23.03–29.03.06

Як закончыцца свята
    і госці ад’едуць дадому,
Застануцца расстанне,
    нястача, самота і стома.
Скразнякі расцярушаць
па кутах напалоханы гоман,
Стане родная хата
    неасвоенай і незнаёмай

Каравелай заморскай,
    што ў трумах вязе кантрабандай
Водар іншых краінаў,
    карыцу, ваніль і лаванду,
Каравелай прывіднай,
    што дарэмна чакае каманду
У няспыннай вандроўцы
    да міфічных сваіх Нідэрландаў.

22.08– 6.09.05

## Фальварак Зацішша

Архангел не зайграе на трубе,
Калі імя закрэсляць на афішах.
Глухі фальварак з назваю Зацішша,
Як нас усіх, чакае і цябе.

Буслянак там не бачылі спакон,
Буслы сабе другі шукаюць вырай.
Адтуль за рэчку возіць пасажыраў
Пануры грэк па прозвішчу Харон.

Ёсць для цябе на беразе жытло,
Каб назіраць за рэчкай і не верыць,
Што і табе калісьці торкне ў дзверы
Старое няўмольнае вясло.

І думаць, што знямогся сівы конь,
Што ўжо даўно пара здымаць падковы,
І што на сцэне нехта выпадковы
Кладзе на струны потную далонь.

Што ў Зацішшы час зусім стары,
Жаўцеюць фотаздымкі і паперы,
І да цябе на познюю вячэру
Не з'едуцца вясёлыя сябры,

Што ад мяне, як здзек або папрок,
З тых берагоў, адкуль лісты не пішуць,
Прынеслі хвалі да цябе ў Зацішша
З сухога квецця сплецены вянок.

10.05–23.07.05

Не кажы  мне ветлівыя словы,
Не дары сардэчкаў папяровых.

У нябёсах белыя анёлы
Зорнае раскручваюць кола,
Штурхануць, блазнуючы, з гары,
А яно, як завіднее золак,
Знічкі рассыпаючы наўкола,
Паляціць з нябёсаў і згарыць, –
У нябёсах больш не будзе зорак.

Ты мне лепей зорку падары.

8–14.03.05

Утульныя у нас дамы
і клімат вельмі памяркоўны,
Ты ж, нібы птушка ад зімы,
ізноў хаваешся на поўдні.

Як той пяшчотны салавей,
ляціш у сінія прасторы
ад нашых снежаньскіх завей
сагрэцца ля чужога мора.

Зямлю далёкіх гарадоў
не грэюць родныя магілы,
таму табе не звіць гняздо
пад чужаземным небасхілам.

Твой цёплы вырай, твой пагост –
ля нёманскіх халодных хваляў.
Ты каля мора толькі госць,
Якога ў хаце не чакалі.

Снег не прыйшоў у горад да Раства,
Таму на Новы год прыносіў прошчу:
Так паваліў, што хутка пахаваў
Дамы, машыны, вуліцы і плошчы.

Да раніцы гуляла па зямлі
Калючая халодная завея,
А раніцаю дворнікі пайшлі
Адкопваць паўночныя Пампеі.

14.01.04

## Варава

Я зведаў смак апошняе мяжы,
па мне таксама бабы галасілі,
але Яго распялі на крыжы,
ну а мяне жывога адпусцілі.

Так і жыву, лічу чужыя дні,
і гэтых дзён збіраецца замнога.
Цяжкія дні. Нібыта камяні.
Чужыя дні,
забраныя – у Бога...

У нашым Небе, на тваёй зямлі,
дзе мы ўдваіх шчаслівыя заснулі,
шалёныя спявалі салаўі
і час спыніць імкнуліся зязюлі.

Яшчэ Стары складаўся Запавет,
і яблыкі яшчэ галін не гнулі,
і перад домам сохлі на траве
ў Нябёсах непатрэбныя кашулі.

8–9. 06.03

Першы дзень вясны
Прыносіць ранняя вясна
гарчынку смутку,
налі мне белага віна –
памянем люты.

Ён быў не тое, каб благі,
а проста розны,
і лусту шэрую тугі
саліў марозам.

Халодным пэндзлем маляваў
на вокнах цуды,
і завіруху завіваў,
і нёс прастуду.

А часам быў зусім другім,
на дзіва, лепшым,
чуллівым голасам тваім
чытаў мне вершы.

Ці палюбіць, ці пакахаць –
не даў адказу,
вучыў шматкроп'ем завяршаць
пачатак сказа,

шматкроп'ем дотыкаў і сноў.
Ён насміхаўся,
а насваволіўшы, пайшоў,
не развітаўся.

Ці радасць прынясе вясна,
ці то пакуты?
Налі мне белага віна –
памянем люты.

Ідзе прыстрэлка, і далёкі снайпер,
П'яны, напэўна, можа, навічок,
Страляе ці то спераду, то ўбок
І час ад часу папраўляе таймер:
На дзесяць год назад, пасля наперад, –
І падаюць сябры вакол мяне.
А я чакаю: вось яшчэ пальне,
І ўжо цяпер мяне ў прыцэл намерыць.

8.10.11

## Пажар

*Езус Назаранскі, што гэта за народ паганскі:*
*карчма гарыць – у вагонь лезуць,*
*царква гарыць – сракі грэюць*
*(Беларуская прымаўка)*

У вёсцы, дзе царква была з касцёла,
Аднойчы ноччу здарыўся пажар:
Карчма гарэла моцна і вясёла,
Паблізу – новы сельсавет і школа, –
Палалі ўсе адразу і запар.

Пачаўся вэрхал, бабы закрычалі:
«Ратуйце, людзі добрыя! Агой!
Гарым! Гарым! Агонь усё папаліць!
Бяжыце, мужыкі, бо мы прапалі!
Тушыце ўсё! Раскідайце агонь!»

Пабеглі мужыкі ўвішна, шпарка,
Тушыць ляцелі дружнай грамадой.
Багры ўзялі, агонь збівалі жаркі,
Папарыліся моцна, нібы скваркі,
Ды затушылі ўсё ж такі вадой.

«Ну, дзякуй богу, большасць ацалела!
Папарыліся, мабыць, недарма! –
Сцірае пот мужыцкая гурма. –
Не пагарэла родная карчма!
Стаіць!»
Усё астатняе – згарэла.

9.10.11

Сыду на апошнім прыпынку,
Дзе горад спыняе хаду
Сваіх агрэсіўных будынкаў,
На глебу жывую сыду.

Яшчэ не знявечана цэглай,
Бетонам і жвірам дарог,
Яшчэ не здаецца здранцвелай
Пад сотнямі тысячаў ног,

А дыхае моцна і лёгка
Грудзямі сівых курганоў
І краскі ў яскравых пялёстках
Народзіць на весну ізноў.

Народзіць, калі не загіне,
Не кінуць пад жвір і асфальт.
Стаю, нібы кат над нявіннай:
І сорам, і скруха, і жаль.

9.10.11

Я тку рушнік, старэйшая сястра,
Я з кужалю напрала тонкіх нітак,
З ільну табе рушнік вясельны вытку,
У хаце свой пастаўлю панарад.
На дошчачку, на дваццаць шэсць нітоў,
Каб клаліся няпроста пераборы,
Я вытку дрэва моцнае, і зоры,
І ліштву з адмысловых галубоў.
Яны сядзяць, спакойна склаўшы крылы,
Галубка белая і шызы галубок,
Але галовы адвялі набок,
Адзін адному назаўжды нямілы.
Бяры свой шлюб, старэйшая сястра,
Вянчайся з тым, хто мне адданы Богам,
Я пакладу рушнік перад парогам,
Калі ў царкву паедзеш са двара.
І вам не будзе шчасця і дабра,
Бо галубы свае не зводзяць дзюбы,
Не будзе ладу і не будзе шлюбу.
Я тку рушнік, старэйшая сястра.

9.10.11

Над комінам суседа ўецца дым,
Ляціць да неба, дзе чакае месяц,
Здаецца вечар чыстым і густым,
Лісцё ляжыць гурбою каля весніц
Сукенкай шлюбнай, знятай маладым.

Скідаюць дрэвы свой вясельны строй –
Спадніцы, андаракі і кашулі,
І сорам ад аголенасці той,
Нібы дзяўчыну раптам распранулі,
Цнатлівую, з някручанай касой.

Празрыстасць у паветры і спакой,
Ледзь гаманіць між дрэў юрлівы вецер.
Такая цішыня! Такі настрой!
Нібы дзяўчо чакае стаць кабетай,
Калі здымае вэлюм маладой.

9.10.11

Вы прыходзілі вечарам познім, вільготным
У кавярню на плошчы, дзе грае скрыпач,
Дзе разбэшчаных дзевак, вульгарных і потных,
Ціскаў п'яны дзядок і бязвусы смаркач.
Вы садзіліся ў кут, каб не бачыць брыдоты,
Толькі  келіх віна, толькі дым цыгарэт.
Так Вы слухалі скрыпку ў шчымлівай самоце,
Калі чорную ружу паслаў Вам паэт.

10.10.11

Я расказала б, як мне татка сніцца,
На раніцу пасля бывае дождж,
Бязлітасны, халодны, нібы нож,
Ён рэжа шыбы ўпоперак і ўздоўж,
Уголас за мяне  галосіць быццам.

Не раскажу ні блізкім, ні знаёмым,
Бо словаў не бывае ў гэтым сне.
А пачуццё бяспекі, як раней,
Калі не ў сон прыходзіў да мяне,
А  проста ў дзверы.
Не з Нябёсаў – з дому.

11.10.11

Мяне паляк пытае: «Kim ty jesteś?»
А я кажу: «Няслушнае пытанне,
Зусім не «ты», бо трэба ў гэтым месцы
Сказаць «A kim ty jesteś, Panie?»

Як так спытаеш, я табе ўзгадаю
З гісторыі маёй, што набалела,
І пра Касцюшку, што ў зямляцтве маю,
І пра Ягайлу, што для вас Ягела.

Пасля скажу: «Мяне завуць ліцвінам,
Ты – караняж. А іншае – няважна».
Мы з ім нальём і вып'ем для ўспаміну,
Ну а пасля агульнай мовай скажам.

14.10.11

## Вераніка Гарэцкая

«Глядзеўся ты ў люстэрка, жартаваў:
«Я нібы чорт, чарнявенькі і кволы,
І на табе, знянацку Бог паслаў
У жонкі мне сапраўднага анёла».

Твой старажытны, слаўны ў краі род –
Гарэцкія і ў сойме, і ў сенаце,
З павагай бацьку сустракаў народ,
А яшчэ болей шанавалі маці.

Апавядалі, як за Рапніна,
На плошчу на руках цябе і брата
Выносіла, адважная, яна, –
Там рускіх дзень і ноч стаяла варта.

І за рубель згаджаўся вартавы,
Каб па шчаках яго папляскаў малы,
А як давалі аплявухі вы,
«Бей ворага!» – Гарэцкая шаптала.

Калі французы Вільняю ішлі,
Яна парад прымала на балконе,
А вы, малыя, побач з ёй былі,
І вас віталі крыкамі «Пагоня!»

Брат патануў, а ты застаўся жыць,
Аматар жартаў і нязлосных кпінаў,
Такога немагчыма не любіць, –
Я пакахала шчыра і нявінна.

Мы ўзялі шлюб, нячысцік і анёл,
Спляло каханне повязь пекла з небам.
Нас Бог сваёю дабрынёю звёў
І даў сыноў і вёскі з добрай глебай.

Я ведаю, што ты не мог інакш,
Я не чакаю словаў апраўдання,
Што кінуў ты сям’ю, маёнтак наш
І адышоў з сябрамі да паўстання.

Крывёю захлынулася яно,
І войскі царскія пануюць зноў у краі.
Ты за мяжой. А я дваіх сыноў
Сама без дапамогі не ўтрымаю.

Бо наш маёнтак, вёску і фальварк
Забралі як маёмасць інсургента,
Зямлю, сялян, і дом, і нават парк, –
Усё, з чаго жылі і мелі рэнту.

А да мяне прыходзяць мужыкі
І з Біскупцаў, і з іншых уладанняў
З надзеяю, што ў гэты час ліхі
Ім дапаможа іх былая пані.

Што не мае – не растлумачыш ім.
Там пошасць сёння, быдла памірае.
А я дапамагчы не маю чым,
Бо мы з сынамі самі ледзь трываем.

Таму прабач, у гэты час благі
Я буду д’яблам, падману і здраджу,
А за мае нявольныя грахі
Пасля сыны перад табой адкажуць».

***

«Мой літасцівы пане Бенкендорф,
Па дапамогу мушу я звяртацца.
Мой муж Антоні нібыта памёр,
Бо беззваротным лічыцца выгнанцам.

Я Вас прашу за двух сваіх сыноў:
Злачынец-бацька за мяжу ад’ехаў,
Для іх – памёр, бо не прыедзе зноў,
Таму прашу над імі ўзяць апеку.

Дадуць Вам слова гонару сыны,
Што ўжо ніколі, нават выпадкова,
З Гарэцкім не сустрэнуцца яны.
А шляхцічы трымаць умеюць слова».

***

«Вялікасць Вашую хачу патурбаваць
Прашэннем жонкі аднаго з бандытаў.
Мы па загаду мусілі забраць
Яе маёнтак і другі здабытак.

Антон Гарэцкі з’ехаў у Парыж
І пажыццёва будзе на выгнанні.
Яна прасіла аб дазволе звыш
Сваіх сыноў аддаць на выхаванне.

Я думаю, што трэба скарыстаць
Такі настрой. Мы ёй прызначым рэнту,
А Вам нябляга пад апеку ўзяць
Сыноў дваіх выгнанца-інсургента.

Няхай растуць пад Вашаю рукой,
Сыны расійскай велічнай кароны.
Ім быць навек падданым і слугой,
Апірышчам імперыі і трона.

Мы ім дамо і ласку, і давер,
Я асабіста буду тым займацца.
Старэйшы – на Каўказ як афіцэр.
Малодшы – ў Акадэмію мастацтваў».

***

Памёр ад ран старэйшы янычар,
Служыў цару, трымаў за маці слова.
Малодшы, як яму прызначыў цар,
Вучыўся ў Пецярбургу – у Брулова.

Чакаў Гарэцкі жонку і сыноў.
Малодшы выязджаў па-за краіну,
Ды не зламаў матулей даных слоў,
Не зганьбіў гонар шляхціча і сына.

Яму ў Парыж на крылах бы ляцець,
Дзе бацька, дзе сябры яго чакалі, –
Ад слова вызваляе толькі смерць,
Твая ці тых, каму яго давалі.

Прыйшлося дваццаць год яму чакаць,
Пакуль жандар і цар сышлі ў магілу.
Да бацькі ён прыехаў – пахаваць.
І не вярнуўся ў Пецярбург панылы.

Гарэцкія ляглі ў чужой зямлі,
На Манмарансі – могілках выгнанцаў.
Прайшлі праз смерць і разам быць змаглі,
Каб назаўжды цяпер не расставацца.

16.10.11

## Прызначэнне

Праз багны, праз гушчар, хмызняк бясконцы
Да лепшага жыцця, да шчаснай долі
Наперад людзі крочылі, да волі,
Каб ззяла сонца і да іх ваконца.

Іх Данка вёў, хоць малады, ды моцны,
Адданы сэрцам роднаму народу,
Ён марыў іх прывесці да свабоды
Скрозь змрочнасць багнаў і хмызняк бясконцы.

Ды многім патачыла душы цемра,
І ахапіў сумнеў адзінаверцаў,
Тады з грудзей сваіх дастаў ён сэрца
І ўзнёс высока па-над змрочнай зеўрай.

І прынялі з нязмернаю тугою
І сэрца, а таксама селязёнку,
Яшчэ дзве ныркі, і адну пячонку,
І вокі два, і рознае другое.

І прадалі хірургам-мафіёзі
Для перасадкі Данкаву вантробу.
І без яго цяпер зрабілі спробу
Да шчасця дабірацца па дарозе.

20.10.11

## Па матывах Босха

Анёлы з крыламі, як ноч, калісьці прыляцяць
за мной
Зімой,
А можа будзе май, язмін і сонца,
Але ўсё роўна прыляцяць,
Гадоў праз нейкіх дваццаць пяць, –
Бясконцасць,
Амаль што вечнасць
гэтых два дзясяткі год
шчэ з нечым.
Напэўна, буду я хварэць,
старэча,
тады нястрашнай будзе смерць
і з ёй сустрэча
Не будзе хваляваць, а будзе па-сяброўску
ветлай,
Чаканай, нібы Новы год, і светлай,
Як небасхіл,
Куды анёлы
пад спеў сваіх чарнільных крыл
натхнёна
Маю душу ад цела марнага аддзеляць
І, нібы шахтай ліфта, уверх
пашлюць тунэлем,
Дзе ў канцы – святла мігценне
ўсіх адценняў,
Дзе я растану, растаплюся,
Стану ценем.

1.11.11

Ты снішся мне, як быццам сніш мяне,
З табою мы ўдваіх у гэтым сне,
У доўгім сне, у нашым сне агульным,
Ён нас з табой як кокан абгарне,
Ці мы жадаем гэтага, ці не,
Ён злучыць жарсць пагоркаў і адтулін.
Ты кангруэнтнасць нашых цел і душ
У гэтым сне падвойным не паруш,
Бо ты і я памножаны каханнем
І складзены, як сонечны вітраж,
А той саюз, што сон прыдумаў наш,
Захоча стацца яваю над раннем.

1.11.11

## Я не кахаю цябе

(акраверш)

**Я**шчарка прыткая звольніць свой бег па каменнях,
**Н**оч упадзе, нібы чорная птушка, на горад,
**Е**сці не хочацца, кава вячэру заменіць,
**К**олькі той кавы – мо рэкі ўжо і азёры!
**А**дасабляюся ад пазаўчора і ўчора,
**Х**лушу сабе, што з нуля пачынаю ад заўтра,
**А**нігіляцыяй пахне начная прастора,
**Ю**зам па ёй пралячу ў разбуральным азарце.
**Ц**ягнецца ноч. Халадзеюць каменні, і памяць
**Я**шчаркай лёгкай спыняе свой бег мітуслівы.
**Б**ожа ласкавы! Не хочацца мучыць і раніць,
**Е**днасць знікае. А ты – заставайся шчаслівым.

2.11.11

На вогнішчы не зацвітуць рамонкі,
А вырасце атрутны чарнабыл,
Там толькі вецер уздымае пыл
І попел завівае ў варонкі.
Прыгожы андэграўндны пейзаж
Для стомленага класікаю вока,
Бо нечым ён нагадвае Ван Гога
Яшчэ да Арля – колер і тыпаж.
Ну а вакол ідзе прыгожы тын,
Па ім віецца глог, дае суквецці,
І ягады бяруць сябры і дзеці,
Ды нехта там яшчэ жыве пры ім.
А веснічкі зачынены даўно,
Замок на іх павешаны пудовы.
Аўтапартрэт пішу. Бракуе словаў.
Мастак з мяне – суцэльнае г-но.

3.11.11

## Айса

Спіць сабака, адкінуўшы лапы,
Залатыя і футра, і скурка,
Нібы сонцам напоўнілі лямпу, –
Лабрадорка мая, лабрадурка.

Выхаванка ката-дамаседа,
Што ёй з раніцы вымые пысу
І з пяшчотаю мудрага дзеда
З ёй падзеліць і мышу, і місу.

Ды прысніць залатая дурніца
Ў гэтым сне, невыказна салодкім,
Што яна не сабака, а быццам
Маладая прывабная котка.

25.10.11

## Эдзіку Мазько

Мой сябра так далёка ад Зямлі,
Што я яго амаль ужо не чую,
А словы, што на сэрца мне ляглі,
Ягонымі, напэўна, быць маглі,
Калі б дарогу лёс абраў другую.

Мізэрней верш, бо словы ўжо мае,
А не яго, – спынілася дыктоўка,
І вобразаў прыгожых не стае,
І рытм крывой масніцаю пяе,
І фабула – як драная вяроўка.

15.11.11

А каля тына, каля плота
Ідзе дадому адзінота –
Старая баба,
Хустка ў клетку.
Яна прыходзіць з дальніх даляў
Да тых, што да сябе пазвалі,
Што, як сястру, яе чакалі,
Ці як суседку.

Ідзе няспешна, нетаропка,
Не з мінакамі, паасобку,
Не супыняецца ля тына,
Паправіць хустку, стукне ў дзверы
І зойдзе,
Гляне тварам шэрым.
Пасля паселіцца ў кватэры,
Як гаспадыня.

15.11.11

Прыдумаю другую рэчаіснасць,
Другія абавязкі і стасункі –
Усё другое.
Памяняю існасць,
Каб ногі не збіваць аб шлях цярністы
І не цягнуць дарма чужыя клункі.

Прыдумаю атол, пясок і пальмы,
Салёны вецер і заход над морам,
Прыдумаю шале высока ў Альпах,
Дом з каланадай у Тэгусігальпе
І белы параход на Бора-Бора.

Прыдумаю, пакуль ідзе аўтобус,
Хвілін за сорак, гледзячы праз шыбу
У прыцемак халодны, у жалобу.
Я пакручу з усмешкай новы глобус
І выйду –
На Гаваі ці Карыбы.

19.11.11

## Адраджэнне

Памірала эпоха. Сусвет памяншаўся ў памерах.
На парыжскай Мадонне
Камянелі, як рыфы, хімеры.
Недзе плыў Магелан
І Калумб разбіваў каравелы,
Памірала эпоха
Пад сталёвым разцом Данатэла.
Новы шлях пракладала
Вярстатка ў руках Гутэнберга.
А на аркуш паперы
У змрочным халодным Нюрнбергу
Выязджалі на конях
Чатыры шалёныя здані –
Чорны, белы, пунсовы
І бляклы ў дранай сутане.
Выязджалі ўпэўнена,
Іх малявалі з натуры,
Дня сустрэчы не ставіў
На творах асветлены Дзюрэр,
Толькі зорку,
Хвастатую знічку Галея.
Грукаталі капыты,
І коні ў скоку шалелі.
Памірала эпоха
Пад грукат жалобны капытаў.
А ў Кракаў пыхлівы
За словам, яшчэ не адкрытым,
Выпраўляла зямля,
Як надзею, купецкага сына.
Ззялі сонца і месяц.
Пачалася эпоха Скарыны.

21.11.11

## Валодзю

Мне лёгка жыць, бо ёсць на свеце ты,
Бо існуюць твой роздум і усмешка,
Бо розным можаш быць: святым і грэшным,
Свавольным у імгненні мілаты.
Нам месяц пасміхнецца маладым,
І сонца дабрынёю нас пацешыць,
І будзе шчасце доўга і няспешна
Свяціць агнём пяшчоты залатым.

23.11.11

Пагрукала зіма калісьці ў сэрца:
«Пусці мяне хаця б адну хвіліну
Пабыць у гэтай хаце і сагрэцца,
Сагрэюся і апасля пакіну».

Пашкадаваў, пусціў зіму пагрэцца –
Хай пажыве хвіліну ці гадзіну.
Замерзла сэрца і амаль не б'ецца.
Як жыць цяпер, калі ў грудзях ільдзіна?

8.12.12

Здаецца, кавалак зямлі – пералескі, пагоркі,
Малыя рачулкі, каменні на ўскрайках дарог.
Ды хлеб, што спяклі не на ёй, хоць бы з мёдам, а горкі,
Вятрыскі спяваюць не тое, і жорсткі мурог.

У нейкай чужой, перапоўненай тлумам сталіцы,
Штоноч засынаючы, чуеш, як сэрца шчыміць,
І марыш, што гэты кавалак нарэшце прысніцца,
Прысніцца куток, дзе хацела б і дыхаць, і жыць.

Нібыта вар’ятка, што страціла розум суцэльна,
Якой усё роўна, што скажуць суседзі і муж,
Ты «Рэчаньку» будзеш спяваць над гарачай патэльняй,
Шаткуючы бульбу і слёзамі солячы тлушч.

11.12.11

## Мае рэкі

Далонь напрацаваная, святая –
Мая зямля. Па рэках, што на ёй,
Напоўненых вадою, бы крывёй,
Я пра яе гісторыю чытаю.

На поўначы лягла на той далоні
Празрыстая і звонкая струна –
Блакітная Заходняя Дзвіна,
Як рыса сэрца, велічнасці ўлонне.

Тут гадавалася крывіцкая дзяржава,
Тут выспявалі мова і народ,
А на Палоце Рагвалодаў род
Паклаў пачатак гонару і славы.

Ад поўначы на поўдзень – рыса лёсу –
Дняпро павольны мые берагі,
Нібыта лук, магутны і тугі,
Нацягнуты далонямі калоса.

Хрыбет зямлі, рубеж, ваяр, і веснік,
І шлях, які асвоены спрадвек,
Як патрыярх сярод славянскіх рэк,
Ён лёс народаў на стагоддзі крэсліць.

Няспешная задумлівая Прыпяць
На поўдні льецца лініяй жыцця,
Праз твань і багны мкнецца на прасцяг,
Каб чашу поўную няпростай долі выпіць.

Не раз адзін перажыла навалу,
Набегі ворагаў, чарнобыльскую суш,
Ды вытрывала між палескіх пушч,
Крывёй сваёй асілкаў гадавала.

А лінія душы – свавольны Нёман –
На захадзе прастуе хуткі крок,
Як будучыні нашае выток -
Шлях у Еўропу, даўні і знаёмы.

14.12.11

## Л.Г.

Вечарам за кубачкам гарбаты
Нам было цікава і ўдваіх.
Чайнік на абрусе стыў стракаты,
Зоры зіхацелі над Арбатам,
Толькі мы не заўважалі іх.

Доўгія вячэрнія размовы
Пра сяброў, знаёмых і пра час.
Нам хапала словаў нашай мовы,
Бо часцей было не трэба словаў –
І маўчанне саграваала нас.

У чужой ужо даўно кватэры
Па кутах схаваныя, як мыш,
Тых размоваў кволыя хімеры,
Нашага маўчання прывід шэры.
З кім цяпер ты аб жыцці маўчыш?..

19.12.11

## Не новы год

А што за рыса – гэты Новы год?
Як быццам нешта зменіцца знянацку,
Паменшыць цяжар справаў і турбот,
Калі гадзіннік будзе біць дванаццаць.

Зноў кока-кольны дзедка з барадой,
Прыдуркаваты і крыху падпіты,
Парупіцца нам уздымаць настрой
Банальным жартам, у лухту спавітым.

Шкада ялінак: ім ісці на смерць
Дзеля імгненняў п'янай весялосці,
У вогнішчах на сметніках гарэць,
Нібы шкілеты, дзе хрыбет і косці.

Заморскіх мандарынаў ёлкі пах,
І мішура як сімвал. Бавім свята.
Хрыстос на небе адчувае жах,
А мо шкадуе гэтакіх вар'ятаў.

29.12.11

Не кліч мяне пайсці за небакрай,
Я не пайду, бо мне не васямнаццаць,
Стамілася чакаць і спадзявацца
На смешны цуд – што будзе ў лютым май.

Пастаўлены ўсе тычкі на шляху,
Я бачу, дзе ісці, дзе прыпыніцца.
Той небакрай вясёлкай не іскрыцца,
А тоіць ноч, завеі і смугу.

Я не пайду з табой за небасхіл,
Мне лепей прыпыніцца тут, на глебе.
Юнацтва пазаве ўзляцець да неба,
А сталасць – затрымацца ля магіл.

7.1.12

## Вечны Жыд

Іду па пыльных, кінутых шляхах,
Закручаных, нібы крывым нарогам
Яны пракладзены,
а пад нагамі – прах
Тых, хто ішоў па гэтых жа дарогах.

Перарабляю шлях на свой капыл,
Каб быў зручней для падарожных ботаў,
Стагоддзяў сто віецца шэры пыл,
Тысячагоддзі – стылы дождж і слота.

Там недзе на канцы маіх шляхоў
Ёсць нешта, што мой крок упарты спыніць,
Ёсць нейкі дах, стадола, нейкі схоў,
А можа быць, кабета ці святыня.

Але куды той доўгі шлях ляжыць
І што шукаць – забыўся я дарогай.
Іду ў бясконцасць. Кажуць: Вечны Жыд,
А я забыўся – племені якога.

У памяці адное: бледны твар
Нібы сцяна, што сонца адбяліла,
Нібыта косці белыя ахвяр,
І нейкі крыж, вялізны і пахілы.

8.1.12

Пішу, выліваю сябе,
быццам студню
Вядзерцам дзіравым на слізкім, як вуж, ланцугу,
Які пацалункам руку спрацаваную студзіць,
Я чэрпаю,
чэрпаю,
чэрпаю – колькі магу.

Вада, ці то кроў,
Ці душа ў вядзерцы?
І хто будзе піць? А калі – у зямлю, быццам бруд?
Аднойчы калісьці дачэрпаю студню да сэрца –
І што мне рабіць? І каму перадаць яго тут?

11.01.12

## Камянецкая Чацця

Вераснёўскі сонечны дзянёк
Кінуў промень на пусты пергамін,
Залатымі хуткімі шыўкамі
Паказаў, дзе пачынаць радок.

Паўустава роўныя слупкі
Прысвятой гасподняе Мінеі,
Нібы шлях праз сцюжу і завеі,
Пацяклі з юнацкае рукі.

Дзень па дню, да Сарака Святых,
Ад драўлянай «дошкі да паловы»
Пёркам лёгкім літары і словы
Ён пісаў для землякоў сваіх.

Маразы студзілі Камянец,
На Піліпа воўкі шлюб гулялі,
Гойдалася ноч на зорных шалях,
На Раство ўскладаючы вянец.

А калі растаялі снягі,
Пад святым пісьмом паставіў коску
І ўпісаў сваё імя: Бярозка,
Нібы раб, што скінуў ланцугі.

23.1.12

## Развітанне са студзенем

Снегам цешыцца студзень – нарэшце пакаяўся,
злыдзень,
І ўзгадаў, што зіма, што завеям гудзець па начах.
Першы месяц няспешна апошні адлічвае
тыдзень,
Запаліўшы для нас навагодні нязгаслы ачаг.

У суседа ля хаты агеньчыкі граюць на елцы,
Развітацца са святамі цяжка – няхай зіхацяць,
Пракладаем сляды, як працяг, на зімовай сукенцы,
Нібы ў белых аблоках празрыстую хісткую гаць.

Карагоды калядныя ўдалеч зляцелі віхурай,
Штурхануўшы гадзіннік і дзён распачаўшы адлік,
Пост Вялікі пагрукае ў веснічкі мніхам панурым,
І, як помнік Калядам, да Пасхі засне снегавік.

24.1.12

Чакаем вясну, быццам грэшныя душы – адпусту,
Як быццам нанова жыццё распачнём,
як растопіцца снег,
Нібыта надзённасці ёлкую чэрствую лусту
Гасподзь падсалодзіць для бедных сваіх недарэк.

Чакаем вясну, каляндар нерухомы пытаем,
Чаму не змяняе імгнення пахмурныя дні,
Чаму не ляціць быццам птушка да цёплага мая,
Дзе знічкі ў расе і ўвечар над рэчкай агні.

Чакаем вясну. Прачынаемся ранкам з надзеяй,
Што прыйдзе раней, што бяздушны зманіў
каляндар,
Што сёння на вуліцы болей не ўбачым завеі
І снежныя пальцы не будуць абмацваць твар.

А нашы сляды замятаюць сівыя мяцелі,
Якія з будзённасцю, пэўна, спрадвек сваякі,
І час замярзае, гадзіннікі ў хаце здранцвелі,
А злы каляндар нашы дні замяніў на вякі.

25.1.12

## Слова аб беларускай літаратуры

Падыграй ім на скрыпцы, Сымон!
Першы баль, слынны баль у Наталлі,
Катыльёны затанчыць *beau monde*,
Замільгаюць ласіны і шалі, –
Падыграй ім на скрыпцы, Сымон.

Як умееш, зайграй ім, Сымон,
Мо не будуць цкаваць і злавацца,
Не пашлюць казакоў наўздагон,
Не пахрысцяць музыкам кабацкім, –
Як умееш, зайграй ім, Сымон!

Паіграй ім на скрыпцы, Сымон!
На тваёй самаробнай, вясковай,
На якой і журба, і праклён,
І надзея, і пах верасовы, –
Паіграй ім на скрыпцы, Сымон.

Твае жылы на скрыпцы, Сымон,
Грай на ёй, хай затанчаць панове,
Грай аб тым, што не можаш спакон
Ім сказаць на закінутай мове,
Грай на скрыпцы, музыка-Сымон.

Як пяе ў Беларусі ручай,
Грай для той, у пунсовым берэце,
Для гусараў у менціках грай,
Хай гранат запяе ў бранзалеце,
Як пяе ў Беларусі ручай.

Грай сваё. Ты не горай, Сымон,
Бо душа заспявала пад смыкам,
Бо ад сэрца і слова, і тон,
І Радзіма на струнах музыкі.
Грай сваё. Ты не горай, Сымон!

2.2.2012

А на апошнім рубяжы
Ёсць невядомыя магілы,
Зямля на іх даўно астыла
І не пастаўлены крыжы.

Непераможаны заслон
Накрыла смерць у чыстым полі,
Не адшукае ўжо ніколі
Іх пахавальны батальён.

Не дадзена памерлым сна,
Баляць смяротным болем раны,
Пакуль яны не пахаваны,
Для іх не скончана вайна.

Не прагучаў для іх загад
Рубеж пакінуць абароны,
Загадана – стаяць да скону,
На крок не адысці назад.

У пекле прывідных атак
З разбітай стрэльбай без патронаў
Яны трымаюць абарону
І ўецца спарахнелы сцяг…

23.02.12

## Таццяне Буйко

*«И как-то получилось,*
*Что я читал стихи...»*
*А. Вазнясенскі*

Навошта плачаце, мадам,
Над казкай, што чытаю Вам
Маёю беларускай мовай?
З жыцця вясковага сюжэт,
А вам Артэга-і-Гасет
Бліжэй, чым даўнія замовы.
Няўжо банал вясковых драм
Прымусіў плакаць Вас, мадам?
Нямнога праўды ў гэтай байцы
Пра здраду, помсту і рушнік.
Чаму ж сярод вучоных кніг
Верацяно шукаюць пальцы?
Чаму ў вачах – святло ікон?
А з вуснаў просіцца праклён,
На стрыжцы мроіцца намітка?
Якая прашчурка жыве
У Вашай мудрай галаве,
Пакуль размовы ўецца нітка?
Не, я не выдам Вас, мадам,
Нікому я не перадам,
Аб чым мы з Вамі гаварылі,
Ні Вашай роспачы, ні слёз.
Так, смешны здарыўся кур'ёз, –
Пажартавалі і забылі.

25.02.12

## Канаплянік

Сонца спіць і з-за хмараў не гляне,
Не абудзіцца з доўгага сну.
Я чакаю, калі ж канаплянік
Прынясе Беларусі вясну?

Паслізнулася шэрая птаха
На дахоўцы, пакрытай ільдом,
І праз комін з высокага даху
Заляцела на раніцу ў дом.

Верабейка спалоханы, дробны,
Галаве неспакойнай на злом
Што прынёс: ці вясну, ці хваробу
Пад стракатым халодным крылом?

Ты з якою навінай пасланы?
Ад каго ты ляцеў і куды?
Знак падай, ці здаровы каханы?
Ад якой ратавацца бяды?

Гаравеснік ці веснік вясновы?
Канаплянік, малы верабей,
Ты ляці і бяры пад ахову
Гэты дом ад хвароб і завей.

28.02.12

Яны цяпер збіраюць клункі
На лецішчах, на дальніх пляжах,
Для нас шукаюць падарункі:
Ці новы спеў,
Ці то малюнкі –
Які ярчэй на крылы ляжа?
Яны па нас засумавалі,
Як мы па іх.
Як род па сыне.
Няхай смарагдавыя хвалі
Ім калыханкі наспявалі,
Ды толькі млосна на чужыне.
Не тою мовай іх мянуюць,
Лісцё не тое на галінках,
Мелодыю зусім не тую
Пяюць платаны, букі, туі,
Што тут – бярозкі ды рабінкі.
Там пахне морам, соллю, ёдам,
Спякотай, зёлкамі другімі,
Не так, як тут – расой і мёдам.
Чужыя могілкі і стоды –
Няма птушынай Берагіні.
Як цяжкі вырак на выгнанне,
Яны свае трываюць зімы.
Надыдзе дзень, калі над раннем
Раскрыюць крылы для вяртання,
Нібы душа маёй Радзімы.

## Гуляць

Акварэль, блакіт, і ў тле –
Хмараў аркі,
Галчанят малых галей
Дрэвы ў парку.
Крыгаў круткі
Карагод
Калатнечай,
Стопіць сонца стылы лёд
У сінечу.
Бліскавіцаю адлік:
Дзень ці тыдзень?
Сэрца ў Рыбах.
Сакавік.
Сонца.
Выйдзем?

## Першае слова

Ён не плакаў, бачыў, што над ім
У зямлянцы, дзе хадзілі цені,
Дагары ўздымаўся цёплы дым,
У няроўным вогнішча мігценні –
Вочы нібы светлыя агні,
У якіх і радасць, і трывога.
І яму ў павіслай цішыні
Гэты твар падаўся тварам Бога.
Бог яшчэ свайго не меў імя,
Бо і мовы не было таксама.
І тады – ужо не малпяня –
ЧАЛАВЕК імя даў Богу – МАМА.

11.3.12

## Рамэа, Юлія і ...

Давай з табой пад ружай пастаім –
Пялёсткамі пазначана акружнасць.
Таемнае вядома нам дваім,
І толькі нам, бо нас пільнуе ружа.
Чырвоная ці белая яна –
Якая розніца, бо ружа пахне ружай,
І жаваронак нас пазбавіць сна,
Адыдзе ноч, што выпілі да дна,
І разамкнецца рук тваіх акружнасць.

## Анёлы

У час, калі золак  расквеціць дахоўку Манмартра,
У мажнай гандляркі, крыклівай, як бойкі пірат,
Пад рыначны вэрхал, ману, непрыстойныя жарты
Вы купіце бручку, фасоль і зялёны шпінат.

А на медзякі, што сагрэты ў паколатых пальцах,
Якімі Вы шыеце іншым да шлюбаў убор,
Кавалак бараніны купіце, таннага шмальцу
І яблык чырвоных, латук і адзін памідор.

На лесвіцы вузкай прыступкі палічыце ўпарта,
Нібыта здабычу, пакупкі ўнясеце ў пакой,
Напевам масніц вас сустрэне малая мансарда,
Згатуецца ежа, і будзе святочны  настрой.

Закрэхчуць прыступкі пад моцнай юнацкай нагою,
Ён прыйдзе, прапахлы парфумамі іншых кабет,
Бліжэй да абеду. І ў Вашым мансардным пакоі
Утульней Вам стане ад дыму яго цыгарэт.

Нібы нацюрморт, заіграюць святочныя стравы,
Пяройдзе ў вячэру абед, як заўжды, спакваля,
І танным віном, маладым і да скомы гаркавым,
Падасца каханне, што будзе між вас апасля.

Ужо адкахаўшы, ён скажа, што ў нейкім бардэлі
На Ру Сан-Вінсэнт або Ру (во, забыўся!) дэ Сол,
Такія знайшоў ён для новых палотнаў мадэлі,
Там што ні дзяўчына – сапраўдны нябесны анёл!

А потым засне каля Вас у мансардзе пахілай.
Мастак і каханы. Да раніцы будзе адзін:
Вы возьмеце з шафы далёка схаваныя крылы
І ў ноч паляціце па фарбы для новых карцін.

15.3.12

## Дзень Волі

Белая дарога пылам па палях,
А на ёй чырвоным – твой гаротны шлях,
У руках скаваных боль не загаіць,
Льецца чырвань з раны – груганам на сыць.
Цягнецца дарога пылам скрозь вякі,
Хто табе да Волі шлях абраў такі?

25.03.12

## Сакавіцкі кот

Ціхану

Цяпер ужо бракуе ў лапах сілы
І пругкасці у скоку не стае,
Прыгоды сакавіцкія твае
Як абавязак – цяжкі і панылы.

Але ізноў з пухнатымі сцягамі
Ідуць каты на бой і на мурню,
І ты ідзеш, нібы душу тваю
Жалейкаю пазваў каціны Гамельн.

Ідзеш на бой, смяротны і крывавы,
Не дзеля котак – што табе да іх?
За права быць найлепшым між сваіх,
За гонар свой, адвагу, моц і славу.

28.03.12

## Сталасць

Апоўдзень сёлета. Зеніт.
Трава зялёная з-пад пліт
На ўзлётным полі.
Куды, нашто ляцець цяпер?
Якіх шукаць вышэйшых сфер?
Ужо даволі.
Памылкі адбыліся ўсе,
Набраўся вопыт пакрысе,
Усяго хапала:
І перамог, і ў плечы куль.
Не рыкнуў час яшчэ пакуль
У слове «сталы».
Расце між пліт ліхі асот,
Таму не просіцца ў палёт
Надзеяў нізка.
Яшчэ хапае апранах,
А палятаць?
Дык гэта ў снах
І толькі нізка.

29.03.12

## Валодзю

Па лесвіцы сыду павольна ўніз
Табе насустрач, рукі распрастаю,
Ты мне прабачыш крыўду і капрыз,
Бо будзе май, – што ў свеце лепш за маі?

І будзе ўсё, як у прыгожым сне:
Чуллівым, светлым, радасным і верным,
Такім, якім бывае па вясне.
А потым будзе лета. Мы і чэрвень.

30.03.12

## «На Беларусі Бог жыве...»

«Ты не той, што павінен. Памылка, мана.
Не такога прыдумалі продкі.
Тройца Вас, ды ўсё роўна, – памылка адна,
І адна на траіх перад намі віна
За падман, за лухту і бразготкі.

Мы плацілі за хрост, мы плацілі за дол,
Мы маліліся прагна аб долі,
Будавалі царкву, уздымалі касцёл,
Я шукаў, ды нідзе я цябе не знайшоў:
Ні ў царкве не жывеш, ні ў касцёле.

Што Ты даў? Што прынёс? Дзе, калі падтрымаў?
Толькі браў беззваротна і хлусіў.
Ты падманшчык, Цябе ў гэтым свеце няма,
Памыліўся паэт, напісаўшы дарма,
Што жывеш на маёй Беларусі».

І спіной павярнуўшыся да алтара,
Не схіліўшы пакорліва шыю,
Выйшаў з храма, а потым праз браму з двара,
Пацягнуўся рукою, ды ўжо не пара
Пажагнацца: не бачаць святыя.

А пасля, адчуваючы сорам і страх,
Слупянеў перад родным парогам:
Новым гонтам падшыты красуецца дах,
А на тыне вароты пяюць у пазах,
І ад дома – сляды на дарогу.

Ды няпростыя пылам віліся сляды:
Кожны ззяў, як ікона святая,
І па іх, як па нітцы, пайшоў ён тады,
Каб шукаць, каб знайсці і вярнуць назаўжды
Зноў у покуць, дзе дошка пустая.

2.04.12

## Яня

Без бацькоў дзічкай-грушкай
У самоце расла,
Каляровую стужку
У касу ўпляла,
Як валошкі да жыта
Той блакіт ў валасах,
Ды дарога не біта –
Вось што маю ў пасаг.
Каб не з'ела галеча,
Не знясіліў каўтун,
У маёнтак з малечы
Прынялі сірату,
Каб служыла паненкам,
Панічам пры стале
За старую сукенку,
За прытулак і хлеб.
Так вось дзесяць гадочкаў
Праляцелі, бы дым,
Дарасталі паночкі
У гняздзе радавым.
А мяне шкадавалі,
Як сяброўку сваю,
І мужычкай не звалі
За гаворку маю.
Падняліся на крылы,
Паляцелі ў свет –
Да далёкае Вільны
Ва ўніверсітэт.
А ў родным маёнтку
Летні бавілі час
І зімовыя свёнткі

Сустракалі ў нас.
Пэўна, Бог сіраціне
Каравай замясіў –
Войт Рыгор гаспадыню
За мяне папрасіў.
Ды сказала мне пані:
«Перастарак Рыгор,
Варта лепшага, Яня,
Не аддам за яго!
Во як будуць Каляды,
Дам рубель або тры
І якую асаду –
Каго хочаш бяры!»
Ды бяда сіраціне
Не шкадуе маны!
На Святога Марціна
Бунт узнялі паны.
Як пярун нечаканы,
Нібы пошасць найшла –
Пан пайшоў да паўстання
І сыны абыдва.
На Святую Вігілью
Звесткі з Вільні прыйшлі:
Пана ў бітве забілі,
А сыны ўцяклі.
А ўслед за навінай
І чыноўнікі мчаць
Нібы зграяй ваўчынай, –
Каб маёнтак забраць.
«За ўдзел у паўстанні
Усё ў скарб забяруць, -
І заплакала пані. –
Ну а вас – прададуць...»

Лёс акрутны і горкі
Мне залом закруціў.
Мо пайсці за Рыгорку?
Ці адразу – у вір?..

17.09.11

*Пэўна, Бог сіраціне Каравай замясіў… -*
Каравай пяклі толькі на вяселле.
*На Святога Марціна Бунт узнялі паны* – Святога Марціна каталікі святкуюць 11 лістапада – пачатак паўстання 1830 г.
*Вігілія* – Новы год.
*Залом* – варажба, порча на жыце.
*Войт* – тут: наглядчык за прыгоннымі ў маёнтку.
*Асада* – хата з зямлёй, на якую «садзілі» прыгоннага ці залежнага.

## На скон

Пакуль твая рука яшчэ ў маёй,
Яшчэ мяне сагрэе цеплынёй
У гэты дзень марозны,
Як быццам адшукалася яна,
Як быццам з успаміну ці то сна.
Ды позна.
Так позна, як ніколі і нідзе,
Бо позна для жаданняў і надзей,
Для словаў розных,
Для планаў, для кахання – для ўсяго.
І для тваёй рукі цяпла майго –
Ўсё позна.
Мне да канца прайсці з табою шлях,
Трымаць тваю руку ў сваіх руках
Аж да расстання,
Да слёз апошніх,
Крыку,
Да мяжы,
Адчаю,
Стогна.
І застацца жыць,
Калі цябе не стане.

Колер тугі на палітры зіма адшукае,
Цёплыя фарбы без жалю паслаўшы ў нябыт,
Ноч намалюе марозную злымі мазкамі,
Побач паклаўшы бялілы і стылы блакіт.

Будзе памерлай зямля на заклятай карціне,
Холад і роспач застынуць ільдзістай гурбой.
Ты пасміхнешся і скажаш: «У дзень Валянціна
Тую карціну дашчэнту мы спалім з табой».

9.2.12

«Ты, чалавек, ідзі сабе, ідзі,
Не будзе для цябе раскрыжавання,
Не дачакаешся ні воцату, ні дзід
І не ўваскрэснеш дні праз тры над раннем.

Ты не дарос да велічы крыжа,
Ён толькі для асобных, для адзіных,
Ты як усе – маленькая душа,
Якая мае жарсці і правіны.

Ідзі адсюль. Для Богавых пакут
Ты не падыдзеш. Не прасі Галгофы.
Не для цябе Пілатавы прысуд,
Бо ты не Бог, не Сын. Бо ты з халопаў».

І ён пайшоў і сам сябе судзіў,
І сам укрыжаваў на крыж сумлення,
Маленькі чалавек. Зусім адзін.
Без веры у наступнае ўзнясенне.

23.10.11

А я нясу твой крыж замест цябе
Насуперак знявагам і кляцьбе,
Нясу спакойна, моўчкі і зацята,
На прах рыззя ўсё больш падобны шаты,
І праступаюць на руках стыгматы
І цёрне пад вяночкам на ілбе.

А мы з табою радасна ілжом,
Што мне зусім няблага з тым крыжом,
Што я нясу яго беззапаветна
Дзеля якойсьці навышэйшай мэты,
Нібы зарок, што даны мной сусвету,
Здабыты адрачэннем і пастом.

А мне ўжо не расстацца з тым крыжом,
Не скінуць цяжар клопатаў і стом,
Ісці табой прызначанай дарогай
Насуперак абвалам і аблогам,
Хоць мімаволі, ды рабіцца богам,
Бо зрося гэты крыж з маім хрыбтом.

23.10.11

Я зноў сваю не даіграла ролю,
Бо з-пад пап'е-машэ фіглярскай маскі
Знянацку праявіўся твар мой уласны,
Агідна перакошаны ад болю.
Пазначаны быў фарс на ўсіх афішах
У бенефіс двух знакамітых блазнаў,
І непатрэбны быў мой твар уласны, –
Ён з іншай п'есы, што яшчэ напішуць
Для іншай сцэны і другіх акцёраў
Гадоў праз сто, калі мяне не будзе,
І ўжо не будзе тых староннbackдзяў,
Цябе і недарэкі-рэжысёра.

23.10.11

Штодзённы ходзіць метраном:
Работа-дом, работа-дом
І ад прыпынку трыста метраў да работы.
Па вуліцы прастуеш крок:
Туды – паўзмрок, сюды – паўзмрок,
Пяць дзён на тыдзень, без нядзелі і суботы.
Як на вітрыне манекен:
Без перамен-без перамен.
А метраном аднойчы нешта сапсаваўся,
І ты на шпільках да вугла
На тры чацвёртых, як змагла,
Пратанчыла дарогу ў рытме вальса.

25.10.11

## Чарнобыльскі ваўкалак

Устане з багнаў зорнай  ноччу
Жоўты вогнік – вока зеўры,
Гляне холадна і змрочна,
Ўсё ацэніць і абмерыць.

Сярод пушчы, сярод багнаў,
У канцы сцяжын змяіных,
Там, дзе хмель віецца прагна,
На карчах стаіць хаціна.

Дах, імшыстым крыты гонтам,
Звесіў край брылём на ганак,
Быццам скінуў ветразь човен,
Біты стрэламі маланак.

Спарахнелыя бярвенні
Сквапна ахапілі травы,
Тут на ўсім – пячатка тлення,
Занядбання і патравы.

У вакне сляпым і цёмным,
Як вуголле сярод ночы,
Што гарыць агнём зялёным,
Свецяць сумным шалам вочы.

Ваўкалакавы пакуты,
Ваўкалакавы праклёны,
Ваўкалакаў лёс акрутны
У вачах гарэць шалёных.

Раз на сто гадоў бывае
Дзень для прошчы, і спрадвеку
Бог злачынцу дазваляе
Стаць ізноўку чалавекам.

Але трэба, каб з вянчання
Поезд ехаў з маладымі,
Гучна б музыка гучала,
І тады сустрэцца з імі.

Напярэймы на дарогу
Мусіць выйсці пераверцень,
Кінуцца каням у ногі,
І спыніцца, і замерці,

Ды каб скрыпкі гучна гралі
Песні, што тады гучалі,
Як з яго вяселля зграю
Злым праклёнам счаравалі.

А жаніх сказаць павінен:
«Ваўкалак, ідзі дадому!»
І адпусціць Бог правіны
Ваўкалаку-маладому.

Але дзе вяселле тое,
Дзе скрыпач для ваўкалака?
Сонца села за гарою,
Ані гука, ані знака.

А за пушчай, дзе хаціна,
На прасторы, на прасцягу

Нетаропка і няспынна
Спее смерць у саркафагу.

Бачыў вогнік вокам злосным
Край пакуты і адчаю,
Дзе вакол – пустыя вёскі,
Ні вяселля, ні вянчання.

27–28.10.11

Адрэзана луста жыцця, нібы хлеба акраец,
Іду ў невядомае, ззаду палаюць масты.
Прысяду на ганку – такая прыкмета старая,
Што будзе дарога лягчэй і не стомішся ты.

Наперадзе ноч. Хоць паходню якую ў дарогу,
Каб выбраць на ростанях просты нязвілісты шлях,
І адрас які б, дзе сагрэюць і дзе дапамогуць,
Дзе скажуць, куды скіравана дарога мая.

Няма дапамогі. Палаюць масты за плячыма,
Няпэўны мой крок асвятляе іх жаркі агонь.
Бывайце, прабачце, спыніцца ўжо немагчыма,
Паходня гарыць і маю саграває далонь.

25.11.11

Загарніце будзённасць у фанцікі,
У прыгожыя – жоўтыя, сінія,
У паперкі юнацкай рамантыкі –
Аксамітныя, срэбныя, вінныя.

Чорным хлебам будзённасць частуецца,
Шэрасць горай акрайца пастылага.
Можа крылы калі распрастуюцца?
Горб турботаў вас робіць бяскрылымі.

Палунайце над сумнымі ранкамі,
Ноч расквецьце сваю феерверкамі…
І забудзьце, што цешыць падманкаю
Вас будзённасць за яркай паперкаю.

19.11.11

Быў Гарадок падзелены надвое,
У кожнай частцы звычай быў трывалы:
Тут – хрысціяне дружнай грамадою,
А там – яўрэі неблагім кагалам.

Прапрадзед мой, касмапаліт зацяты,
Хоць крыж насіў і ў бога шчыра верыў,
Ды на мяжы сабе паставіў хату,
Сваім быў паміж гояў і яўрэяў.

Сыноў чацвёра кожную суботу
(А быў дастатак і маёнтак спраўны)
Хадзілі да яўрэяў на работу,
Бо грошы зараблялі для забавы.

Так і жылі між тымі і другімі,
Не падзяляючы на гояў і не гояў,
Былі ў мястэчку ўсе для іх сваімі,
Без нехрысцяў, іудаў і ізгояў.

Прапрадзед мой падмурак змог закласці,
Таму ў сям'і закон трывае строга:
Мне напляваць, якой ты веры, масці,
Якім багам ты молішся ці богу.

Галоўнае, каб не згубіў сумлення,
Каб не быў дурнем, скнарам, прайдзісветам,
Не мае іншае ніякага значэння,
Вагі, ацэнкі, роздуму і мэты.

14.11.11

Ты падманула, нібыта лісіца,
Прызначыла сустрэчу пад грыбком,
Я будаваў такі прыгожы дом,
Каб мы змаглі з табою пасяліцца.

Была б ты маці, бацькам быў бы я,
Былі б Аксанка з Танькай як дачушкі,
Ці пагулялі б тут у Папялушку, –
Была б такая добрая сям'я!

Ты не прыйшла. Стаю, бадай, вякі.
Пясочніца і шуфлік. Нудна выю.
Калі ўжо прыйдзеш, дам табе па шыі
За сэрца боль і мокрыя парткі!

12.11.11

Прыехаў госць у Белавежу
На покліч гучны арганізма
І на прасторы тым бязмежным
Ахвярай стаў вуаерызму.

Ён у гумовых жоўтых ботах,
Узняўшы доўгія халявы,
Шукаў няспынна па балотах
Дамок чаротаўкі вяртлявай.

Яму сказала дома Марта,
Што тая птушка (мілы божа!)
Больш за яго ў сексе варта,
Бо ўраз хвілінаў сорак можа.

Нарэшце ён знайшоў гняздоўе
І за бінокль схапіўся прагна
Падпільнаваць, калі любоўю
Пташыны займуцца у багнах.

Чакаў, заходзілася сэрца.
Птах шчабятаў і лапкай дрыгаў,
Але зірнуўшы на збачэнца,
Скруціў крылом стракатым фігу.

11.11.11

Сярод ялін, сярод бяроз
Жыве ў парку майстра-дрозд.
Ён мае абсалютны слых, не мыліцца ў нотах,
Ён пад разлеглым елаўцом
Пабудаваў прыгожы дом
І там жыве сваёй сям'ёй без суму і турботаў.
Гавораць, што пяюць дразды
Бязмэтава і ад нуды,
Што проста цешацца яны сваім удалым лёсам.
Спыталі неяк мы наўпрост,
Нам адказаў разумны дрозд,
Што салаўям дае ўрок, тупым і безгалосым.

10.11.11

## Казка пра дванаццаць апосталаў

У цёмным патаемным лёху
Нараду распачаў Андрэй:
«Давайце ўцячэм патроху,
Няма аховы ля дзвярэй!»

Тамаш сказаў: «А як дагоняць?
Ці верыць нам у Боскі цуд?
Яны амаль што ўсе на конях,
Дык пасякуць, нібыта хлуд!»

Сказаў Лука: «Не трэба енкаць!
Я намалюю наш маршрут,
І крок па кроку мы ціхенька
Пакінем гэты цёмны кут».

Сказалі разам Пётр і Павел:
«Нам трэба прабірацца ў храм,
А як дакрочым неўзабаве,
Шукаць ключы ад брамы там!»

Мацей рашуча ўсіх заклікаў:
«Не будзем біць дарэмна ног,
Я прапаную даць ім выкуп,
Каб не чапалі гэты лёх».

Ягоны брат Якуб маўкліва
Ківаў у згодзе галавой,
Маўляў, дамо ў лапу хцівым
І выкупім сабе спакой.

«Як не збяжым – не ацалеем,
А выкуп – здрада і падман!
Растопяць, як кацёл з алеем!
Збяжым!» – сказаў рашуча Ян.

Другі Якуб далонь пачухаў
І басам голасна прароў:
«Ім прапаную даць у вуха
І пару-тройку бізуноў!»

Маўкліва слухалі старэйшых
І пільнавалі ля дзвярэй
Малодшыя з гурмы тутэйшай:
Піліп, Сямён, Барталамей.

Але бліжэй да цёмнай ночы,
Калі ўжо зорак не відно,
Рашылі ўсё ж такі пакрочыць,
Залегчы ўпотайкі на дно.

Ішлі крадком, таропка, ціха,
Каб не круціўся нават пыл,
З Нясвіжа, падалей ад ліха,
Дзе іх пакінуў Радзівіл.

Ішлі далоў са страшнай пасткі
Схавацца ў схрон або ў гушчар,
Каб не ўбачыў заграбасты
Ліхі чычагаўскі гусар.

Такі абралі схрон удалы,
Што вось стагоддзі два амаль

Іх процьма ворагаў шукала,
Але старалася дарма.

Яны – пад нейкім даўнім крыжам
Ці ў нейкім схове пад ракой.
І самі прыйдуць да Нясвіжа,
Як будзе на Зямлі спакой.

10.11.11

## «Аўтсайдэру»

Вялізная чарга стаіць да крамы,
Там выдаюць бясплатна ярлыкі,
На некаторых пішуць «Лепшы самы»,
На некаторых – «Дурань» і «Благі».

Стаіць чарга, хвалюецца, балмоча:
«Ці стане ўсім прыстойных ярлыкоў?
А можа ўзяць каторы не захочуць,
Дзе напісана пара добрых слоў?

Дык я вазьму як лепшую адзнаку,
На відным месцы, можа, на ілбе
Я прычаплю з павагай і падзякай
За тое, што такі прыдбаў сабе».

А за прылаўкам у дзівоснай краме,
Куды штодня гурмой стаіць натоўп,
Як мурашы таўкуцца хам на хаме,
Дзеля якіх яшчэ не склалі слоў.

13.11.11

## Ной

Напрацаваўшыся да поту
І намазоліўшы далонь,
Агледзеў Ной сваю работу,
Пачухаў задумёна скронь:

«Здаецца, добры човен будзе,
Высокі, мажны і хадкі,
Хай тонуць у патопе людзі,
А мне тапіцца не з рукі».

Пацёр, узрушаны, далоні…
Тут цераз плот сказаў сусед:
«Плыві, плыві, г-но не тоне!»

Так склаўся Першы Запавет.

9.11.11

Лістапад, лістапад,
Але пошта працуе марудна,
Не даходзяць лісты, што пасланы не ў час,
наўздагад.
Недайшоўшых лістоў нагрувашчаны стосы
паўсюдна.
Піша восень.
Чакае.
Згубіўся здаўна адрасат.

А на гэтых лістах
Напісаны найлепшыя вершы,
Ґеніяльная проза і безліч малюнкаў і нот.
Піша восень для нас. Ужо хутка чарніла паменшыць.
Прападаюць лісты, бо ніхто не падаў на зварот.

8.11.11

Мы правім класікаў. Такі ўжо лёс у іх.
Яны сваё калісьці адпісалі,
Цяпер маўчаць, пакінуўшы скрыжалі,
Памылак не заўважыўшы сваіх.

Яны – падмурак. Велізарны гмах
На іх трызненні, болю і памылках
Цяпер стаіць нібыта на касцях.
А нашае быццё – на іх спасылка.

7.11.11

Мне доктар вызначыў дыягназ
І, паглядзеўшы, з неахвотай
На бланку напісаў выразна,
Там, дзе анамнез: адзінота.

А лекі напісаць забыўся.
Пайду, у торбачку паклаўшы
(Калі знайду з лякарні выйсце)
З адзіным словам змяты аркуш.

5.11.11

Давай праедзем тую ноч,
Як на машыне – хутка-хутка,
Каб не заўважыць мімаходзь
Адчаю нашага і смутку.
Далей паедзем.
Далягляд
Яшчэ заве і спакушае,
І мы з табою наўздагад
Сваю дарогу абіраем.
Яшчэ наперадзе ў нас
Такіх прыпынкаў чорт накруціць!
І будзе безліч розных трас,
І мітусні, і каламуці.
Не будзе скрухі і нуды,
Пакуль мы поруч блізка-блізка.
Паехалі, дадай хады –
Ужо ў маторы зззяе іскра.

5.11.11

Раніца. Шэрань. Мо шостая. Выйду на ганак.
Недзе за воблакам спіць як малое світанак.
Я абуджу яго, буду ад сёння за пеўня,
Іх  усё роўна нямашака ў вёсцы, напэўна.
Хай пачынаецца дзень. Пачынаецца ранак.
Лепшы за ноч, што схавалася ў ценю фіранак
І пазірае адтуль непрыязным уважлівым вокам.
Сёння ўжо досыць ёй прымхаў і марных зарокаў.
Звонкі і чысты, як трэмала лепшай гітары,
Ранак прачнуўся.
Бывайце, начныя пачвары!

4.11.11

Якое віно даспадобы табе?
Пытанне такое наспела,
Бо келіх сумуе пусты на стале.
Напоўніць чырвоным ці белым?

А ты пасміхнешся: «Каб быў я паляк,
Было б тады ўсё зразумела:
Мой келіх павінен нагадваць сцяг,
Наліты чырвоным і белым.

Каб быў я французкі які камунар,
Ідэямі Маркса натхнёны,
Як сцяг, што паліты крывёю ахвяр,
Напоўніў бы келіх чырвоным.

А на Беларусі – так сэрца ляжыць –
Зрабіў бы пачэсна і смела:
Свой келіх даверху рупіўся б наліць,
Каб белым, чырвоным і белым».

22.10.11

Мне раніцай ісці на працу,
Ісці ўсё роўна – дождж ці снег.
А можа будзе цуд – знянацку
Збярэцца праца да мяне.

Тады закрыю моцна дзверы,
Цішком схаваюся ў кутку,
Няхай назад ідзе, халера,
Туды ідзе, прыйшла адкуль.

Яна пачне паўсюль бадзяцца,
Марнець, пад вокнамі прасіць.
Я, мабыць, пашкадую працу,
Паклічу. Будзем разам жыць.

12.10.11

Прыдумай мне мелодыю для песні,
каб заспяваў пакінуты агонь –
пяшчотную, як цёплая далонь,
і ясную, як неба напрадвесні.

Няхай у ёй трапеча асалода,
з якой вясёлка п'е рачны струмень,
і ноч купальская, і вераснёўскі дзень,
і белы ранак на пачатку года.

Няхай не будзе гукаў выпадковых,
няхай яна вірue і пяе.
Прыдумай мне такую.
Для яе
сваё каханне пакладу на словы.

14.02.03

Сухія кветкі на акне
ў пакоі занядбаным,
у ачагу на палатне
агонь намаляваны.

Каханне нашае, як цень
сівога Бураціна,
каля яго святкуе дзень
святога Валянціна.

8.02.03

Нібы кот утульны і кашлаты,
ўзімку вечар завітае ў хату,
прыгатуе цёмную гарбату
і варэнне ў сподачак нальe,

пакрысе лянотай адмысловай
зачаруе ручку і аловак,
запаволіць думкі і размовы
і пагасіць лямпу на стале.

Апасля на коўдры да світання
завуркоча мяккім вуркатаннем,
аб сваім каціным паляванні
будзе бачыць зоркавыя сны.

Адагрэе лапы, хвост і пысу.
На дварэ зіма, мароз і слізка.
Я яму вяршкоў налію ў місу –
хай жыве са мною да вясны.

29.01.03

Ты паглядзі, як прыгасае дзень,
ты пачакай, каб стаялі аблокі,
каб тонкую сцяжынку на вадзе
праклала поўня да краін далёкіх.

Табе яшчэ ўсю ноч ісці па ёй
да берагоў пяшчотнага кахання,
у сне маім, – па сцежцы залатой,
дзе я табе прызначыла спатканне.

19–20.01.03

Я грэшніца і простая жанчына,
Ды мроіцца, што невядома дзе
Знайду сабе Якубаву драбіну,
Якая да нябёсаў прывядзе.

Калі Гасподзь прабачыць той учынак
І не пашле на галаву праклён,
Я папрашу, каб даў мне адпачынак –
не вечны,
а хаця б на пару дзён.

29.11.02

Прыйшлі агульныя сябры,
ды мімаволі
з іх кожны – кат,
і прэнг стары
рыпіць пад столлю.

Ды кожны раз яго імя
адорыць болем,
бо «мы» няма,
ёсць «я»,
і «я»,
і наваколле...

4.11.02

Дадому я вярнулася над раннем,
каб адпачыць ад страт і перамог.
Быў родны дом далёка ад дарог
і вось цяпер стаіць на скрыжаванні.

Чужыя тут вятрыскі гаспадараць
і краявіды іншыя наўкол,
не тыя стравы падаюць на стол,
і за сталом няма знаёмых твараў.

Не дом, а атэлье для папарацці,
дзе не схаваеш слабасць і бяду.
Я з гэтай хаты вечарам пайду –
цяпер ужо няма куды вяртацца.

21–30.09.02

## Паданне пра гарадзенскі гадзіннік

Герману Брэгеру

У старажытным магдэбургскім месце
гадоў таму з вялікім гакам дзвесце
на вулцы, што ішла ад Рынку проста
і праз Падол выводзіла да моста,
на Вільчыкавым пляцы[1] на Пасадзе
гадзіннікі прыезжы майстар ладзіў.

Сюды ў Гародню, Губертава[2] места,
што за трасца дзыгарніка прынесла,
дзе на іспыт сваю прадставіў штуку,
каму рабіў падзяку за навуку
і нават скуль прыехаў у краіну –
бракуе ў гродскіх кнігах успаміну.

Дзыгарнік меў прыбытак у Гародні.
Тут, як у кожным горадзе заходнім,
дакладна разумелі вартасць часу –
гадзіннік мелі ў ёй яшчэ да Сасаў[3]:
на Ратушы, як гэта быць павінна,
ён адбіваў квадранцы і гадзіны.

Быў дзыгармайстр не вельмі аказалы,
немалады, хутчэй, ва ўзросце сталым,
меў выгляд непрыемны і пануры,
у дзень святочны, быццам на хаўтуры,
хадзіў ён па Гародні ў чорных шатах,
як той кажан, маленькі і гарбаты.

---

[1] – Пляц, які належаў Вільчыку, жыхару Гародні.
[2] – Патрон Гародні – св. Губерт
[3] – Саксонская каралеўская дынастыя Рэчы Паспалітай канца 17– першай паловы 18 стст.

Даў Бог Гародні ўладу над каханнем –
што ні кабета тут, то ясна пані,
аднолькава ў халупе ці ў палацы –
дзе ж у такой на смерць не закахацца!
Вось і дзыгарнік, чорны і пануры,
ў Гародні быў падстрэлены Амурам.

Жыла красуня ля Старое Панны[4],
на вулцы, што з Падолля да Кургана[5].
Аднойчы на імшы – у бернардзінаў –
сустрэў дзыгарнік гэтую дзяўчыну
і з Трох крыжоў[6] вярнуўся закаханы
у тую ці то Марту, ці то Ганну.

І паляцелі па Гародні плёткі,
што дзыгармайстр ударыўся ў залёты,
што ходзіць кожны дзень, як апантаны,
на вуліцу каля Старое Панны,
на пісаравы пляц да камяніцы,
і хоча з той дзяўчынай ажаніцца.
Нарэшце, ашалелы ад кахання,
паненцы дзыгармайстр зрабіў прызнанне.
І адказала Ганна, ці то Марта,
што заляцанні проста смеху варты,
няхай у гэты бок не пазглядае,
бо для яго яна замаладая.

[4] – Царква ў Гародні, сёння не існуе.
[5] – Назвы раёнаў у старажытнай Гародні.
[6] – Мясцовая назва касцёла бернардзінаў.

З Гародні майстар з'ехаў, а дзяўчыне
на ўспамін пакінуў ён гадзіннік:
нязвыклы, адмысловы і аздобны,
маленькі, на цыбулінку падобны,
каб адпаведна з модай тагачаснай
за ланцужок прывешваць да паса.
Пакутай стаў гадзіннік для дзяўчыны,
ён адлічаў гады, нібы гадзіны,
паводле дзыгармайстрава праклёну
ляцелі стрэлкі ветраком шалёным
і падганялі час зачараваны,
пакуль старой не стала тая панна.

Гадоў у Гародні прамінула многа...
Гляджу ў люстэрка з сумам і трывогай,
а з-за пляча майго – спрадвечным катам –
смяецца дзыгармайстар той пракляты.

3–6.08.02

Калі настрой наш зменіцца ў світанак
З мажору на мінор,
Рука ў руцэ мы пойдзем, мой каханы,
Праз твой прыціхлы двор.

Маёй руцэ ў яго руцэ пяшчотнай
Захочацца адно
Каменьчыкі разбітае самоты
Шпульнуць табе ў вакно.

22–23.04.02

## Толіку Брусэвічу

Ты так асталяваўся на Парнасе,
Што нават там палац пабудаваў,
А мне сказаў: «Шкада на вершы часу,
На свеце многа больш цікавых спраў».

Быць можна гультаём і абібокам,
Калі глядзіш з гары ў плебейскі ніз,
Калі жабруюць рыфмы каля вокнаў,
Ледзь свіснуў – і яны ляцяць на свіст.

Няма ўва мне ні горычы, ні злосці,
Маўляў, не роўна талент дзеліць Бог.
Я буду белай зайздрасцю зайздросціць
І ля палаца зладжу буданок.

26.03.02

## Толіку Брусэвічу

Давай мяняцца.
Ты – на першай чвэрці,
На мне другая шэранню ляжыць.
Я навучу цябе, як не баяцца смерці,
А ты мяне – як не баяцца жыць.

...А каб на дваццаць год забыцца –
Такіх гадзіннікаў няма.
Ці ты спазніўся нарадзіцца?
Ці я спяшалася дарма?

## Восеньскае танга

Яшчэ адна мінае восень.
Дажджы.
Ужо нямнога засталося
Пажыць.
Жыццё так хутка тчэ на кроснах –
Гадах –
Не затрымаеш, не папросіш.
Шкада.

Саткала восені лісцёвы
Сувой,
Нацягне белую аснову
Зімой
І пафарбуе ніткі сокам
Травы,
Заўе на скроні першы локан
Сівы.

На развітанне танга,
Каштанавае танга,
Лісця і ветру танга
З сінкопамі дажджу,
У восеньскай альтанцы
Яго затанчыць старасць,
З якой неперастанна
На дыбачках кружу.

Танга,
залатое танга,
Танга лістападу,
Танга пад дажджом,
Скарга,
скарга на расстанне
з летам і каханнем,
з марай і цяплом.

11.10–12.10.01

## Верш на Раство

Мне б на золку прачнуцца
у цябе на гарачым плячы
у той хаце, што ты збудаваў нам
на нашай зямлі,
трох сыноў нарадзіла б
і на зоры лятала ўначы,
і было гэта так, усё было, так збылося,
калі б…

Слотнай шарай гадзінай
твой анёл прыляцеў да мяне.
Ды не будзе, не будзе, не вернеш –
чаруй не чаруй.
Мой чаканы, не любы,
не каханы, не пешчаны, не…
За самоту маю,
за сыноў
ды за зоры –
даруй!

## Нядзеля

Спаць да дванаццаці,
Пасля пamроіць млява,
У ложку лежачы.
Сняданак.
Кубак кавы.
Няма турбот,
Няма надзённых справаў,
Адно – забавы.

Перабіраць сукенкі і аздобы
Бязмэтава.
Абед.
Вячэра на адну асобу.
Чытаць?
Пісаць?
Не варта спробы.
Зірнеш у люстра перад сном,
А там – амёба.

8.04.12

Астравы вечнай вясны

Вясну не дачакацца ў гэтым годзе,
І так шкада,
Бо красавік, здаецца, на зыходзе,
Але смуга штораніцы на ўсходзе.
Прадаў вясну, напэўна, нейкі злодзей,
Прадаў!

У рабства, мабыць, нейкае, за мора,
Гадоў на пяць,
Каб там яна ў жалобе і пакоры
З травы і кветак вышывала ўзоры.
Там ёй маркотна, бо не нашы зоры
Гараць.

Яна батрачыць цяжка на багатых,
На нейкіх скнар,
Лагодзіць ім мусоны і пасаты,
Гадуе птушак звонкіх і стракатых.
Давайце забярэм яе дахаты
З Канар!

5.04.12

Верш
Як вяршыня.
На вяршыні – верш,
Дзе гулкіх шчылін мёртвая мярэжа,
За туманамі пакручастых сцежак,
Якімі ты навобмацак ідзеш.
Там, на вяршыні, цішыні прасцяг,
Як у канцэртнай зале па шэдэўры.
Ты перш чым дойдзеш, пастаіш над зеўрай,
Калі дыханне стрымана ў грудзях.
Ідзі дарогай роздуму свайго,
Ідзі праз кручы словаў выпадковых,
Перабірай святы ружанец мовы.
Там на вяршыні – верш.
Знайдзі яго.

11.04.12

Маліцеся, каб вас у Небе чулі,
Трымайце пост, трывайце ў цноце схім,
А лепш паспавядайцеся матулі,
Яна прабачыць вам усе грахі.

Хай пакрычыць на вас, хай скажа: «Глупства!
Хто ж робіць гэтак? Хто вось так жыве?»
Пасля прытуліць і замест адпусту
Пагладзіць моўчкі вас па галаве.

9.04.12

## Ля помніка скульптара Шушкевіча

*Exegi monumentum aere perennius*
*(Q.Horati flacci carmina III XXX)*

На могілках старых ізноў вясна,
Ужо з зямлі выходзяць першацветы,
Прачнуцца травы ў вечным царстве сну,
Пачнуць расці з-пад пліт і парапетаў,

Адновяць птушкі даўнія дамы
На стогадовых ліпах і бярозах,
Пух каташкоў з зімовае турмы
Пацягнуць у нябёсы вербалозы.

Мы пойдзем па алеі паміж дрэў
Ад белага маленькага касцёла
Да майстра, што за год не пастарэў
На барэльефе пад сівым анёлам.

З якімі думкамі ён помнік рэзаў свой,
Калі з'ядала дзень па дню хвароба?
Ці думаў, што смяротны тчэ сувой,
З мармуру высякаючы аздобы?

Ці ў тым жалобным творы рук сваіх
Да дна імкнуўся вычарпаць майстэрства,
Апошні погляд і апошні ўздых,
Удар апошні змучанага сэрца?

Стаім. Маўчым. А думка – аб другім,
Падобныя яны жыццём нямарным,
Бо для другога самым дарагім
Быў сціплы помнік з Кухтавай друкарні.

14.04.12

## Княгіня

*З-за непахіснасці крочыла ззаду,*
*Змардаваная, згвалтаваная часам,*
*Безнадзейная, але ж непадданая гаду,*
*Цягнулася з тым, хто пакрыўдзіў, разам.*

*Вольга Турмовіч*

Мо толькі дурань голасна заплача,
Што мова памірае, што загіне!
Яна не змардаваная жабрачка,
А мудрая і вечная княгіня.

У перлах вершаў, дыяментах прозы,
У аксаміце Метрык і Статутаў –
Смяецца з недарэчнасці прагнозаў
Іудаў і скуголячых манкуртаў.

Яны памруць, а мова застанецца,
Бо кожны здзек, бы лёд зімовы, стопіць.
У нашай мовы велічнае сэрца,
Яго яшчэ на сто стагоддзяў хопіць.

16.04.12

Калі ўжо падае, дык разам, дык усё,
Рук не хапае падтрымаць або зладзіць,
Так, пэўна, наша складзена жыццё,
Што ніжацца ўсё існае на ніць,
Як пацеркі,
як бісер,
нібы ўзор,
Арнамент,
як кілім або дыван,
Звязаныя ў адзінае – дакор,
Нястача, радасць, гора і падман;
Іх не разблытаць і не аддзяліць,
Бо зменіцца малюнак
і жыцця
Парвецца Богам дадзеная ніць...
І я лаўлю, каб быў пасля працяг.

24.05.12

Тваёй усмешкі сонечнай страла
Зляцела з лука вуснаў бліскавіцай,
Я ад яе не здолела закрыцца –
Яна такая шчырая была!
Забойчая для ўсіх маіх трывог,
Для суму, недаверу і трызнення,
Для зайздрасці, што ўзнікла на імгненне,
Для стомы застарэлай і знямог.
Дзіцячы жарт, дзе сэрца і страла,
З табою мы на момант адрадзілі,
Бо я, як Ева, трапіўшаму «Тылю»
Чырвоны яблык сэрца аддала.

24.05.12

Няхай услaвіцца Лянота!
Так бы і жыў заўжды ў гульбе!
Ды прыйдзе страшны звер – Работа,
Ашчэрыць зубы на цябе,
Зарыкае і заскуголіць,
Драпежна выгне кіпцюры,
І забярэ, і заняволіць –
Каб ад зары і да зары.
Яшчэ і пугай падганяе,
Працуй, маўляў, іначай з’ем!
А часам шчэ прыходзяць зграяй –
Работ збярэцца пяць ці сем,
Тады ганяюць талакою
Ад раніцы і да цямна,
Няма ні ўздыху, ні спакою,
Ды маніць роздыхам труна.
І думаеш: «Знайшоў бы малпу,
Што кій прыдумала узяць,
І так па пысе моцна даў бы,
Каб ёй адбіла працаваць!»

21.05.12

## Іры і Жэню

Я пакінула час у сяброў
На стале паміж кніг і сурвэтак,
Дом быў поўны кахання і кветак,
Не схацелася часу дамоў
У мае мітуслівыя дні
І такія ж бяссонныя ночы,
Ён сказаў, што ад'ехаць не хоча,
А пабудзе крыху ў цішыні.
Тут яго не адсунуць у кут,
Не пагоняць, не кінуць без ладу,
Тут дадуць цеплыню і спагаду
Для загнаных гадзін і мінут.
Белай стужкай цяпер у мяне
На руцэ пралягло бесчасоўе.
Час спыніўся, забраны любоўю.
Не шкадую. Няхай адпачне.

26.05.12

## Масква-Брусэль

Мая зямля-матуля, раскажы,
Чаму тысячагоддзі твой народ
Раскрыжаваны лёсам на крыжы –
Рукой на захад і рукой на ўсход?

Ці будзе храм на раздарожжы тым?
Дзе нам рабіць памежныя равы?
Маліцца нам, скажы, якім святым
На ростанях касцёла і царквы?

А як жагнацца: леваруч на ўсход
Або на захад праваю рукой?
Ці будаваць асобны нейкі стод,
Адрозны, хай нягеглы, але свой?

А як цябе, гаротную, абняць,
Калі далонь працятая цвіком
І не адняць ад крыжа галавы?

І цягнікі чужынскія ляцяць,
І наша гора едзе цягніком
З Масквы ў Брусэль, з Брусэля – да Масквы.

12.06.12

## Удава

Галіне Мазько

Палю траву, зямля нібыта пух,
Гарачая ад чэрвеньскага сонца,
Згарну яе ля яркіх кветак дзвюх,
Няхай квітнеюць шчыра і бясконца,

Як два агні, дзве свечкі начніка,
Каб спаць было спакойна, каб не ў цяжар
Табе чакаць, калі мая рука
З тваёй рукой у глебу побач ляжа.

17.06.12

Вярнулася нарэшце на Радзіму
З чужых дарог, дзе горкі нават мёд,
Дзе крылы не ўздымаюцца ў палёт,
Дзе песні нарадзіцца немагчыма.

У нас дажджы, ды гэта не бяда, –
Перажывём, хай нават навальніца.
Зямля мая – адзіная крыніца,
Дзе не бывае горкаю вада.

## Помнік

(байка)

У гонар Мікалая Мураўёва,
Што край Заходні абрусіў увесь
І быў надзеяй трона і аховай,
Бо задушыў паўстанне паспяхова,
У Вільні помнік вырашылі ўзнесць.

Адлілі помнік з бронзы велічэзны,
Паставілі на плошчы, каб відно,
Зрабілі свята і парад пампезны
Пад дабравест царкоўнае званоў.
Вось так вярнуўся ў Вільню Мураўёў.

Але шахрай якісь мядзведжым салам
Употай ноччу выпацкаў яго,
І з Вільні ўсёй на плошчу панагнала
Сабакаў процьму – сучак, кабялёў
З усіх ускраін, вуліц і дамоў.

І зграя Мураўёва аббрахала.

Шкада, у нас цяпер мядзведзяў мала,
Бо ёсць куды намазаць тое сала.

3.11.11

## Свіння і бісер
(байка)

Аднойчы каралева Бона
Свае ўладанні аб’язджала,
Правы давала і законы
Сялянам, шляхце і кагалам.

Заехала да Радзівіла
Як да заможнага суседа,
Каб адпачыць, набрацца сілы
І дзень правесці за бяседай.

На раніцу для праменаду
З палаца выйшла каралева
І скіравалася да саду
Пад цень і водар пышных дрэваў.

Але раптоўна напярэймы
Свіння затрухала на сцежку
І стала, як маршалак сейма,
Вачыма павяла драпежна.

«Агой, спыніся, прайдзісветка, –
З пагрозай рохкнула жывёла. –
Якога стану і павета?
Адказвай! І вочы – долу!»

І са здзіўлення адказала
Свінні драпежнай тая Бона:
«Я – каралева... Аб’язджала
Уладанні нашае кароны...»

«Прыехала без запрашэння!
Не пагляджу, што каралева!
Зрабіць ты мусіш паднашэнне
Мне, уладарыні над хлевам!

Нясі сюды свае куфэркі,
Кляйноды розныя і бэрлы
Ды не забудзься ўзяць люстэрка,
Я бісер выберу і перлы».

Плячмі паціснула жанчына,
Пасля загадкава сказала:
«Так моцна хочацца свініны,
Ну і яшчэ чамусьці сала».

Тады ў палац пайшла па сцежцы
Да ясна пана Радзівіла –
Абмеркаваць рэцэпты ежы
І перспектывы на пасілак.

Свінння дарма чакала куфар
І з паднашэннямі жанчыну –
Замест яе з'явіўся кухар,
Бо заказалі смажаніну.

Як ты жывеш у брудным хлеве,
Не засці сцежку каралеве.

11.11.11

## Казёл-праўдалюб

(байка)

У нейкім хлеве жыў Казёл паважны,
Ён здольнасць меў да чынаў эпатажных,
Казлам суседскім у казліных бойках
Ён паказаў вялікі дух і стойкасць.
Замардаваўшы ўсіх казлоў наўкола,
Ён думкай быў заняты невясёлай,
Што родны хлеў жыве не па статуту,
Што тут замнога розных баламутаў,
Якія пыху маюць і пагарду
І праўду зганьбілі хлуснёй сваёй упартай.
Аднойчы ранкам, страціўшы цярпенне,
Ён стаў вучыць Сабаку, Кур і Пеўня:
«Ты, Певень, топчаш кур, ты цела цешыш,
Ды пеўня даў учора каля першай!
А ты, Сабака, брэшаш без нагоды,
Такая ўжо сабачая парода!
І толькі я, Казёл высакародны,
Умею праўду перадаць народу,
Не схлушу, усё аддам дзеля народа!»
І даў – струмень агіднага смуроду.

Не скажа праўду для народа быдла –
Адно смурод, паганы і агідны.

24.1.12

## Конкурс прыгажосці
(байка)

Быў конкурс прыгажосці між жывёл,
Спансіравалі зверы– business-ani:
Карова, конь, сабака і асёл
Паклалі грош з уласнае кішэні.

На подыум да гледачоў запар
Выходзілі пад гром апладысментаў
Кот трысняговы, панда, слон, гепард,
Алень і лань – жывёлы-прэтэндэнты.

Ацэнкі выстаўляліся журы
За моцны голас, мажнасць і паставу,
За востры нюх, за хвост і кіпцюры,
Яшчэ за скок – каб роўны быў і жвавы.

Нарэшце вынік прагучаў, журы
Рашэнне прыняло адзінадушна:
Быў пацуку прысуджаны гран-пры
Навечна, назаўжды і непарушна.

Напэўна, шмат не трэба гаварыць,
Бо вынік растлумачыць вельмі проста:
Асёл на конкурс абіраў журы,
І ён абраў крата і качканоса.

21.1.12

## Байка пра мужыкоў

Аднойчы Бог хадзіў па Беларусі.
Адныя бабы. Мужыкоў няма,
Якія ёсць – усе ляжаць ніцма,
Хістаюцца нібы пры землятрусе.

Ён мужыкоў задумаў працвярозіць.
«Уставайце, мужыкі!» – ім крыкнуў Бог.
І вось паўсталі мужыкі, хто змог,
З траншэй, з магіл, з-пад крыжа на пагосце.

З мячом, з кляўцом ці з паламанай дзідай,
Са стрэльбай, у якой адзін патрон.
«Што ж я зрабіў!» – тады падумаў Ён
І ў неба ўзнёсся недалёк ад Ліды.

А мужыкі пайшлі па Беларусі
Рабіць дзяцей, смяяцца і кахаць,
Араць зямлю, гарэзіць, майстраваць.
А бабы ў ложках славілі Ісуса.

4.10.11

## Мядзведзь

(паэма)

У гушчары мядзведзь стары, калматы
Ад страшнай раны цяжка паміраў,
Хрыпеў і біўся, дзідаю працяты,
Крывёй паіў дзірван зялёных траў.

У час смяротны, змучаны адчаем,
Звярнуўся ён да Маці ўсіх звяроў,
Якая ў смерці ім дапамагае,
І свой апошні запавет прароў:

«Дапамажы па смерці адрадзіцца,
Зямля-матуля, маці ўсіх багоў!
Хай стану дрэўцам ці малой крыніцай
Між гэтых пушчаў, рэчак і лугоў.

Прашу цябе, Зямля, звярыным сэрцам,
Ты накладзі праклён адвечны свой
На ўсіх, хто сцяць захоча тое дрэўца
Або ў крыніцу кіне бруд ці гной!»

Каб не прапаў, не стаў магільным тленам,
Каб праз вякі жыццё адчуў ізноў,
Паўстаў мядзведзь базальтавым дальменам
На моцных лапах бурых камянёў.

***

Я акенцы зачыню,
Дзверы падапру паленам,
Шчыліны запхаю сенам,

Сыпану аўса каню,
Каб раптоўна не заржаў,
Каб не выдаў таямніцу:
Ноччу цацку-чараўніцу
Гаспадар сабе прыдбаў.
Як па снезе ды ўначы
Мы з ім ехалі да пушчы,
Палазы блішчэлі тлушчам –
Каб не рыпнулі па чым.
Там у самым гушчары,
Дзе дубы стаяць сцяною,
Пад разлапістай сасною
На асвечанай гары –
Стод паганскі, як мядзведзь,
Страшны, буры, скамянелы.
Быў да гэтай ночы цэлым,
Ды не здолеў ацалець.
Мне сказаў надоесь сват,
Што калі той камень чорны
Ператворыцца ў жорны,
Дык нібыта знойдзеш клад.
Ёсць у стода цудны дар:
Ён намеле дабрабыту,
Будзеш важны, будзеш сыты,
Як сапраўдны гаспадар.
Ты маўчы, мой конь сівы,
Скуль прывёз камень уночы.
Наўздагон завея крочыць,
Замятае след крывы.
Не іржы, мой конь сівы,
Будзеш і з вадой, і з кормам –
Нам дадуць багацце жорны
Са звярынай галавы.

***

## Калыханка

Не хадзі, сыночак, па начах,
Не выходзь на вуліцу да ранку,
Замятае снег да лесу шлях,
Праспявае маці калыханку.
Люлі-люлі,
Агня не палі.
Люлі-люлі,
Бяда на зямлі.

Дзверы зачыню, каб ацалець,
І цябе дахаты пазаву.
Вуліцай ідзе стары мядзведзь,
Чорную шукае галаву.
Люлі-люлі,
Пачвары прыйшлі.
Люлі-люлі,
Бяда на зямлі.

Торкаецца ў веснічкі мядзведзь,
Лапай скамянелай б'ецца ў дзверы,
Цягнецца ў гарод і пад павець,
Галавы няма ў ляснога звера.
Люлі-люлі,
Пакралі-ўзялі,
Люлі-люлі,
Бяда на зямлі.

Не хадзі, сыночак, на гару,
Да дубоў старых канём не едзь,

Бо адтуль у цёмную пару
Безгаловы цягнецца мядзведзь.
Люлі-люлі,
Ці знікне калі?
Люлі-люлі,
Бяда на зямлі.

***

Ты мялі, мялі, млынок,
Адсыпай муку набок,
Адсыпай бяду і ліха –
Патаемна, ціха-ціха.
Не баіцца твой млынар
З лесу цёмнага пачвар.
Ты мялі, мялі, млынок,
А паўпрыца – скок ды скок!
Хай баяцца ўсе суседзі
Безгаловага мядзведзя,
Не баіцца твой млынар
З лесу цёмнага пачвар.
Млён дубовы павярну,
Памалюся Перуну,
Каб вялося, каб збылося,
Каб расло, нібы калоссе.
Не баіцца твой млынар
З лесу цёмнага пачвар!

***

Не вясёлка ды не месячык стаяць над зямлёй,
Гэта ў Друцку Рагвалод-Васіль з дружынай сваёй.
Мудры князь, магутны князь, усім вядомы баец,
Беражэ ад злых напасцяў свой пачэсны сталец.
Да яго праз пушчы-нетры па зімовым шляху

Адваконь  вазком-прушынкай Сакалянкай бягу
Распавесці пра нядолю, пра пачварны сурок,
Пра знявечанага звера і чароўны млынок.
Нехта злосны меле-меле, круціць жорны ізноў,
Парахнеюць хаты ў вёсцы, быццам хто размалоў,
Парахнее ў клунях жыта, парахнее лянок,
Косці ў коней парахнеюць – круціць нехта млынок.
А ўначы з пушчанскіх нетраў злы выходзіць мядзведзь,
Безгаловы лезе ў клуню, у адрыну ці клець,
Людзі кажуць, што шукае галаву гэты стод.
Бог нам толькі дапаможа, як не князь Рагвалод.

***

Сосны стаяць векавыя,
Снегам замецены край,
Вецер пранізліва вые
Сотняй раз’юшаных зграй.
Цягнецца шлях праз заторы,
Лёд на два локці – гудзіць,
Ззяюць халодныя зоры.
Гэй жа, ваўчыная сыць!
Гэй жа, спяшайцеся, коні!
Нас не спалохаць Зіме!
Хмараў на неба нагоніць,
З поўначы  люта задзьме,
Толькі ляціць мой вазочак
Па Сакалянцы наўпрост.
Дзень яшчэ толькі і ночка –
Друцкі ўжо блізка пагост.

***

Дзве бярозкі зрубам завяжы,
На адну – другая, як на крыж,

Запалі агонь на тым крыжы
І кладзіся спаць тады – паміж.
Будзе ноччу грэць святы агонь,
Не замерзнеш нават у мароз,
Кола абвядзі, ды пасалонь,
Каб нячысцік з лесу не прыпоўз.
Уздымае вецер снежны пыл,
Гурбамі навокал белы вал.
Хорасу малюся – Дабраміл
І Хрысту прасветламу – Міхал.
Ноч кладзе канец святлу і дню.
Коні  абратаныя, вазок.
Цені на ялінах ад агню.
Студзень-Зюзя, пэўна, не ізок.
Сну няма, бо недзе з глыбіні,
З сэрца пушчы йдзе тужлівы стогн,
Між ялін – зялёныя  агні.
Воўкі. Зграя. Выйшлі на загон.
Дзіда. Ёсць у похвах востры корд.
Колькі іх? Дзясятак, можа, два.
Не адбіцца. Быў бы побач хорт!
Ды няма. Прапала галава!
Коні напалохана іржуць,
Дзе ж ім, абратаным, ацалець!
Вогнішча пазначыла мяжу,
За якой клыкі ўжо шчэрыць смерць.
Рык у лесе. Нізкі, гарлавы,
Нібы гук валовых тоўстых струн!
Ну й пачвара! З шэрані, сівы,
Выйшаў да агню мядзведзь-шатун!
Паглядае. Розум у вачах.
Пераверцень! Божа, барані!
Стаў за кругам. Знік кудысьці страх.

Прэч пайшлі зялёныя агні.
Лес прыціх. Стаіць, як і стаяў,
Там, за кругам. Мішка. Мо Міхал?
Сам прыйшоў, ці хто яго паслаў
Вартавым на мой вакольны вал?
На зыходзе ноч. Святло ізноў.
Пакланюся ў лапы да зямлі.
Не, у ногі. Сцежкі, дзе ішоў,
Чалавечым следам праляглі.

***

Ой, бяда, бяда –
Ў галаве вада,
А не розум у дзеда старога!
Але ж дурань я –
Загубіў каня,
І адрыну, і сошку з нарогам!
Нешчаслівы лёс
Той камень прынёс
Уначы на святочнай нядзелі!
Дзе багацце, дзе?
Дагадзіў бядзе –
Той млынок і мяне перамеле!
Жорны дзе падзець?
Загрызе мядзведзь,
Як прыду з галавою ягонай,
А пакіну тут –
Не стрываць пакут
Ад звярынага злога праклёну.
Аднясу камень
У рачны струмень
Ці ў балота далёка ад хаты!
Збуду жорны з рук –

Забярэ Кадук.
Калі дурань – не будзеш багатым!

***

Мяце, шалее завіруха,
Лютуе студзень каля вокнаў,
Здаецца, нехта стогне глуха
Пад стрыхам, недзе каля крокваў.

Калі ж ты вернешся, мой сокал?
Малюся Богу кожны вечар,
Каб шлях спрастаў табе далёкі,
Каб нашу набліжаў сустрэчу!

Ты моцны, кемлівы і дужы,
Адолець вызваўся дарогу,
Зімовы вецер, снег і сцюжу,
Прасіць у князя дапамогу.

Вясельных рушнікоў наткала,
Сувоі лёну набяліла.
Вярні, Хрыстос, майго Міхала!
Вярні мне, Хорас, Дабраміла!

Прыедзеш, будзе ўсё па-людску –
Запоіны і заручыны.
Вярніся, сокал ясны, з Друцка
Дамоў, да ластаўкі-дзяўчыны!

***

Лес расступіўся, зніклі здані,
Прастуюць коні чысты шлях,

Відно здалёк умацаванні
З чырвонай глінай на валах.

Равы, магутныя бярвенні –
Сажэняў пяць увышыню,
Унізе шэрыя каменні –
Не ўзлезці вою і каню.

Умацаваныя на славу
Дзядзінец, горад-агарод.
Каб бараніць сваю дзяржаву,
Узносіў крэпасць Рагвалод.

Праз вузкую разору ў вале
Вазочак ластаўкай ляціць.
Даехаў! Эх, зважай, Міхале,
Што будзеш варце гаварыць.

Паслухалі, пусцілі ў горад,
Павезлі, двое па баках,
Яшчэ валок, ізноў разора –
Дзядзінец, церам. Збыўся шлях!

Камлюкаваты, моцны, мажны
Стаіць на ганку. Князь? Цівун?
Высокі, мо касая сажань.
І позірк... Божачка, шатун!

***

Як жалезная спружына,
Як у лука цеціва,

З Друцка скокнула дружына –
Вершнікаў дзясяткі два.

Нібы сокалы ў нябёсах,
Будуць дзень і ноч ляцець,
Праз завеі і таросы
Павядзе іх князь-мядзведзь.

Скокам-бегам без начлегаў,
Коні моцныя ў нагах, –
Так прадзед  магутны бегаў,
Шэрым воўкам мерыў шлях.

Дзень-другі па Сакалянцы,
Сцежкай снежнай цераз лес.
Вунь і хаты на палянцы,
Пазамеценыя спрэс.

Вёска моўчкі сустракала,
Толькі пара йшла з дамоў,
Не чакалі мо Міхала
І падмогу – ваяроў.

Ранак, сонейка на ўсходзе.
Не было б якой бяды!
Ціха. Людзі не выходзяць.
І мядзведжыя сляды.

Рыпнулі далёка дзверцы,
Вось яшчэ, і там, і там…
Добры дзень, адзінаверцы!
Будзе дапамога вам!

***

Даўно ўжо сонца спіць за лесам,
За сценкай конікі ўздыхаюць
Пад абаронаю Вялеса
І цудатворца-Мікалая.

Пячурка, корчык ззяе палка,
Браты прыгрэліся ў куточку.
– А як ты думаеш, Міхалка,
Што робіць князь у пушчы ноччу?

Адзін пайшоў, не ўзяў ахову,
Пакінуў меч, ды без кальчугі,
Напэўна, ведае замову
Супроць каменныя звяругі?

– Пакуль маленькі, Дабрагосцік,
Як дарасцеш, тады пазнаеш,
Каго ты ў Друцку на пагосце
І на Палоце князем маеш.

А зараз не хвалюйся, брацік,
Князь вернецца абавязкова,
Ужо назолку будзе ў хаце.
Адной крыві – нашто замова?

***

Схавалася сонца за лесам нарэшце,
Трашчыць ад марозу старая дуброва,
Цяпер толькі воўкі выходзяць на сцежкі
І просяць у Юр'я і Мары ахову.

Цямнее ў дуброве, але не для звера -
Старыя карчы мерцвякамі пасвецяць.
Мяшаецца мова, мяшаецца вера,
І з пекла, з нябыту ўрываецца вецер.

Дубы векавыя, узвышша святое,
Ці сёння ці ўчора, ці век ці імгненне
Браты па крыві сустракаюцца. Двое –
Жывы і здаровы ды мёртвы з камення.

«Браце мой каменны! Мёртвы браце!
У каменні бурым пахаваны,
Мёртвы і па смерці скатаваны!
Звар'яцелы з болю і закляцця!

Ні мядзведжай, дый ні людскай мовай,
Галавой, паскуднікам адцятай,
Мне імя знявечыўшага ката
Ты не рыкнеш, браце безгаловы!

Боль твой не схаваеш у бярлогу!
Ты за грэх паскудніка і ката
Ці заб'еш яго медзведзянятаў?
Хопіць шалу – мёртвага і злога?

Ты шатун і я шатун, мой браце!
Ты – у свеце мёртвых, я – на гэтым.
Сцежку паміж тым і гэтым светам
Мы з табой сваёй хадою гацім.
Гэту сцежку, браце безгаловы,
Я закрыю. Спі. Пакут не будзе.
Хорасавым знакам звяжуць людзі
Ці, інакш, пячаткаю Хрыстовай».

***

Вытаптана кола на паляне,
Языкі агню нібыта крылы,
Бог Ісус сюды нарэшце гляне
І пашле з нябёс Улады-Сілы,

Каб далі рашучасць Рагвалоду,
Каб ужо адвыклі хрысціяне
Шанаваць паганскіх чорных стодаў,
Што стаяць спрадвеку на паляне.

Князь маліўся зранку, клаў паклоны,
З ім на горцы – вёска і дружына,
Каля стода – стол, на ім ікона
З горада Святога Канстанціна.

Па малітве на спіне пачвары,
Безгаловай, чорнай, скамянелай,
Фрол-каваль, як знак нябеснай кары,
Выбіў крыж сваёй рукой умелай.

Скончылася страшная навала,
Будзе ўлетку вёска з ураджаем,
Пусцяць лес сухі вясёлым палам,
Збожжа князь прывезці абяцае.

Князь да вёскі рушыў, на усход –
Адпачыць. Яшчэ палаў агонь.
Сталі людзі моўчкі ў карагод
І пайшлі па кругу пасалонь.

Ходзіць Хорас –
Хараша!
Карагодам

Хораса,
Карагодам –
Па нягодам,
Па ліхім драпежным стодам,
Па нядолі,
Па хваробе,
Хай буяе жыта ў полі!
Карагодам –
Цэлым родам!
Бог далёка, многа мае чадаў,
Сёння бачыць, заўтра – не пачуе.
А паблізу – Хорас, Мокаш, Лада,
Ды адны на ўсіх Зямля і ўлада,
Хай жа дзеляць тую і другую.

***

Да неба цягнуцца галінкі,
Ужо відно на іх пупышкі,
Зямля як рожаніца дышыць.
Сватоў чакае Міхалінка.

З апошнім снегам, па марозу,
У вёску з Друцка ці з Палоты
Да ўсёй сялянскае галоты
Прыехаў Рагвалод з абозам.

Цяпер да лета, да навіны,
Не будзе голаду й галечы,
А з князем іхнюю сустрэчу
Навек запомніць Міхаліна.

Што князя да дубоў пазвала?
Знянацку выйшла, без нагоды –

Ён выкрыў раптам каля стода
І Міхаліну і Міхала.

Арэхаў горку, жыта жменю,
Сухія гроначкі каліны
Прынеслі хлопец і дзяўчына
Мядзведзю бураму з камення.

Зірнуў на стод халодным вокам,
Пасля на іх. Дрыжалі ногі
Пад позіркам ягоным строгім.
А потым заручыў зарокам –

І за сябе і за нашчадкаў,
І па мячы і па кудзелі:
За стодам пільна каб глядзелі,
Ды не парушылі пячатку.

Каб злы паскуднік не знявечыў
Мядзведзя з бурага камення,
І з пакалення ў пакаленне
Каб быў спакой і сон адвечны.

А калі клятву занядбаюць,
Разбудзяць звера у бярлогу,
Тады, праклятыя праз Бога,
Загубяць веру, род і памяць.

Цяпер маліся не маліся,
Не збудзеш прэч закляцце тое:
Хрыстом, дзяцьмі, сваёй крывёю
Яны з Міхалам пакляліся.

***

Сонца ўставала на ўсходзе
Безліч разоў –
Зноўку і зноў.
Сон бераглі.
Спаў
Паміж траў,
На зямлі,
Пры рахманым народзе.
З крыжам-пячаткай на поўсці каменнай
Спаў на гары.
Потым у новым бярлогу, на змену,
Пры алтары.
Спаў. Бачыў сны,
У якіх зіхацела раса на галінках дубовых,
Брат малады і сыны.
Спаў пад аховай.
Потым паскудны чырвоны млынок
Сцёр у труху,
У нябыт,
У пясок,
Вымеў дашчэнту,
Як чортава замець, –
Веру,
Народ,
І Мядзведзя,
І памяць.

5–14.05.12

## Каментарыі

*Рагвалод-Васіль* (1110-я — 1171/1180), князь полацкі (сяр. 1128 — лета 1129; 1144—1151; 1159—1162), князь друцкі (1158—1171/1180). Сын полацкага князя Барыса («шатун»).

Пасля смерці Барыса (пач. 1128) па тагачасным праве полацкі сталец перайшоў да яго малодшага брата Давыда князя ізяслаўльскага. Па жаданню палачан Рагвалод-Васіль замяніў малодшага брата на Полацкім стальцу. У барацьбу паміж братамі ўмяшаўся вялікі князь кіеўскі Мсціслаў, які з вялікім войскам пайшоў на Полацкую зямлю. Рагвалод разам з палачанамі вымушаны быў прынесці васальную прысягу Кіеву. Але Рагвалод гэтую прысягу хутка зламаў, адмовіўшыся ўдзельнічаць па просьбе Мсціслава ў паходзе супраць полаўцаў. Пасля заканчэння палавецкага паходу Мсціслаў зноў уварваўся ў Полацкую зямлю і прымусіў палачан выдаць Рагвалода-Васіля і іншых яго родзічаў разам з сем'ямі. Пасля суда ў Кіеве Рагвалод разам з сям'ёй быў адпраўлены у Візантыю да двара імператара, дзе быў дзесяць гадоў.

Вярнуўшыся з Канстантынопалю, Рагвалод адмовіўся ад сваіх правоў на полацкі сталец і пачаў княжыць у Друцку, які ператварыў у моцную крэпасць –валамі былі абнесены дзядзінец і вакольны горад, ужываліся бярвенні і чырвоная гліна для мацавання сценак вала.

Двойчы пасля гэтага займаў сталец у Полацку, перажыўшы яшчэ адну здраду палачан і прабачыўшы яе.

Апошнія гады жыцця княжыў зноў у Друцку. Імя Рагвалода-Васіля пазначана на так званым Рагвалодавым камяні, дзе выбіта дата 6679 г. ад стварэння свету (1170/71гг. – па эры ад РХ).

*Рагвалодаў камень* – манументальны старажытны сціплы помнік эпіграфікі XII ст. Знаходзіўся каля вёскі

Дзятлава Аршанскага раёна, за 18 км ад Оршы. Выяўлены ў 1792 годзе. У 1171 годзе на валуне вышынёй у 3 м высечаны 6-канцовы крыж і надпіс на царкоўнаславянскай мове: «В лето 6679 месяца мая в 7 день доспен крест сей. Господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогволоду сыну Борисову». Вышыня літар 15 см. Крыж і надпіс высечаныя па загаду друцкага князя Рагвалода Барысавіча, які, паводле меркавання некаторых даследчыкаў, пасля галоднай зімы 1170—1171 асвяціў паганскія камяні ў надзеі на ўраджай. Камень быў шанаваны мясцовым насельніцтвам, якое лічыла яго святым. У другой палове 19 ст. над каменем была ўзведзена царква ў гонар Барыса і Глеба. Валун быў падарваны ў 1930-х гадах нібыта з мэтай будаўніцтва шашы Масква-Мінск, аднак яго абломкі яшчэ доўга ляжалі на сваім месцы.

Паданне пра Рагвалодаў камень, які быў каля в. Дзятлава Аршанскага раёна, гаворыць, што камень калісьці быў на чатырох нагах і меў галаву. Млынар адсек яму галаву і зрабіў жорны. Але гэтыя жорны самі перамалоліся ў пясок, змалолі ўсё багацце і ўсю сям'ю млынара.

*Сакалянка* – рэчка ў Аршанскім і Талачынскім раёнах.

*Адваконь* – двумя конямі (архаізм).

*Хорас, Хорс* – адзін са старэйшых багоў у славянскім пантэоне. Сімвалізаваў сонечнае святло, парадак, стваральную сілу. Пры распаўсюджанні хрысціянства ў славян асацыіраваўся з Хрыстом. Знакам Хораса было кола, свастыка, крыж. У славянскіх мовах словы хараша, карагод (як рытуальны танец, які сімвалізуе ход сонца па небе) у корані маюць імя гэтага бога.

*Пасалонь* – па ходу сонца (архаізм).

*Корд* – востры цяжкі нож.

*Хорт* – старажытная парода сабак.

*Кадук* – у славянскай міфалогіі нячыстая істота, бог цемры, злы дух.

*Цівун* – пасада ў княскай адміністрацыі

*Прадзед-пераверцень* – Усяслаў Чарадзей.

*Вялес, Волас* – адзін з малодшых багоў славянскага пантэона, абаронца коней. У хрысціянстве асацыяваўся з Св. Юр'ем або Аўласіем.

*Мікалай-цудатворца* лічыцца, апрача іншага, абаронцам падарожных.

*Святы Юры* лічыўся ва ўяўленні беларусаў, апрача іншага, ваўчыным абаронцам.

*Мара* – у славянскім пантэоне – багіня смерці, цемры, ночы.

*Ікона з горада Святога Канстанціна* – грэчаская ікона з Візантыі. Першыя святыя іконы ў славянскіх землях з'явіліся з Канстантынопалю.

*Мокаш* – багіня хатняй гаспадаркі, патронка жанчын.

*Лада, Ладо* – у славянскім пантэоне багіня (бог) кахання, любові.

*Рожаніца* – спадарожніца Рода, бога сям'і, рода; ахоўніца парадзіх і сям'і.

*І па мячы і па кудзелі* – нашчадкі ці продкі па мужчынскай і жаночай лініі.

## Батлейка

(паэма)

На двары завея ўецца змейкай,
Круціцца калядным карнавалам.
Я дастану малаток і рэйкі,
Каб зрабіць прыгожую батлейку:
Зорка ў Бэтляеме запалала.

Зладзіцца дыхтоўная батлейка:
Зверху неба, унізе справа – пекла,
Роўненька абклею пад лінейку
Ірадавы трон чырвонай бейкай,
А алтар – блакітнай. Будзе пекна!

Баба і мужык, яўрэй з яўрэйкай,
Поп, казак, цар Ірад, чорт з анёлам –
Лялек будзе цэлая сямейка
Для маёй каляднае батлейкі,
Каб было цікава і вясёла.

Скрыпачка і дудачка-жалейка,
А яшчэ і бубен з шаркунамі –
Без музыкаў не гучыць батлейка,
Можа цымбаліст прыб'ецца нейкі,
Каб не сорам граць перад панамі.

Панясем калядную батлейку
Па завулках, вуліцах, праз горад.
Дзеці наляцяць як верабейкі,
Майстравыя, пані-дабрадзейкі.
Хто запросіць да сябе акцёраў?

***

У доме пачцівай Агаты
Пануе святочны настрой:
Прыбраны падворак і хата,
І, нібы ў касцёле арнаты,
З шаўковаю ніткаю шаты
Да твару Агаце самой.

Кафляныя печы і сценкі
Нагрэлі вялікі пакой,
Тут можна хадзіць у сукенках,
Нібыта паны і паненкі
У нейкім заможным засценку,
А ў госці запрошаны войт.

Бяседзе батлейка дарэчы –
Пацешыць пачэсных гасцей
Паказам прыстойным падвечар
Пра цуды, Хрыста і Прадцечу,
Пра Ірада і пра малечу,
Анёлаў святых і чарцей.

Падмайстры збіраюцца ў хаце
Вясёлай каляднай гурмой
Старшынавай жонцы Агаце
Батлейку наладзіць на сяце.
Сказала, што добра заплаціць,
Калі задаволіцца войт.

***

Усё гатова, грай, нябога!
Пачнем жа, хлопцы, байку. З Богам!

*Панове-дабрадзеі! Мы раскажам*
*Пра Ірада-цара аповяд свой.*
*Быў Ірад-цар вялікі, слаўны, важны,*
*Але дурны, як наш шаноўны во... Гм.*

«Ты што вярзеш! – шыпіць старэйшы. –
Ледзь войта не абразіў вершам!»

*Аднойчы напярэдадні Калядаў,*
*Мо дзён за пару да святой куцці,*
*Цар Ірад, не скажу з якога ляду,*
*Задумаў немаўлят усіх знайсці.*

«Хутчэй варухайся, Андрэйка,
Таго, з канём, запхні ў батлейку!»

*Вось па загаду едзе да палаца*
*Аніка-воін, надта ганарысты,*
*Каб на царовы вочы паказацца,*
*Нібы да войта наш дурны бур... Гм.*

Старэйшаму ізноўку клопат:
«Бурмістра не чапай, шалёпа!»

*Дае Аніку цар загад злачынны:*
*«Забраць нованароджаных дзяцей*
*У кожнай з краю нашага жанчыны!»*
*Забіць хацеў Ісуса, ліхадзей!*

*Пачаўся лямант пасярод кагалу,*
*Хапала слёз жаночых і выцця.*
*Рахіль-жыдоўка спрытна прыхавала*
*Пад андаракам роднае дзіця.*

«Хутчэй варухайся, Андрэйка,
Давай чарнявую яўрэйку!»

*Але Аніка-воін зухаваты*
*Пад андарак Рахілевы залез,*
*Нібыта войт да нашае Ага… Гм.*
*І ўсіх дзяцей завёў у цёмны лес.*

Старэйшы прашаптаў панура:
«Ў труну мяне загоніш, дурань!»

*І ўсіх дзяцей падверг ён лютай смерці.*
*Ды Ірад паплаціўся галавой:*
*Цара забралі ў пекла злыя чэрці,*
*А там яго чакаў ужо наш в-о-о-о…*

*Вой, як забралі дык забралі!..*

*Закончана аповесць пра Каляды».*

Тут войт лагодным басам прабурчаў:
«Батлейка добрая, але чамусь няскладна
Ваш цымбаліст паказу падыграў».

***

Ёсць барацінкаў некалькі ў кішэні –
Старшынавай Агаты паднашэнне,
Крывілася, але дала на піва,
І каб адзначыць добрыя паказы,
Да Хаіма ў карчму ідзем адразу
Ад гаспадыні нашае пачцівай.

А ў карчме, а ў карчме
Толькі мёртвы не п’е,

Толькі дурань песні не спявае!
Будзе поўна карчма,
З братам мы абыдва
На чужыя грошы пагуляем!
Гэй, карчмар! Гэй, жыдок!
Адчыняй свой шынок,
Налівай два гарцы і вядзерца,
Вып'ем, браце карчмар,
Мы з табой, гаспадар,
Сёння па пітву – адзінаверцы!

***

Калі ісці ад нашай з братам хаты
Завулкамі за горад напрасткі,
Дык леваруч убачыш небагаты
Дамок на самым беразе ракі.

Хоць невялікі, а дыхтоўны, ладны,
На даху гонт, шыпшына ля вакна,
Вакол яго – зялёныя прысады,
А побач гай – бяроза ды сасна.

Я нібыта п'яны, хаця цвярозы,
Як узгадаю дом сярод прысад,
І цягне ў гай пад белыя бярозы
Пайсці ў часіны светлыя Каляд.

Назаўтра з братам мы сваю батлейку
Пад гэты дом над рэчкай панясем.
Магчыма, выйдзе, гляне цераз вейкі
Вачыма сінімі, як іскры на расе.

***

## Калядка

Ой, ішла Калядка калядуючы праз гарадок,
Зайшла ж яна да Сцяпана на прыветны парог:
– Ой, пачцівы наш Сцяпане, Каляду прывячай,
Не шкадуй каўбаскі, хлеба – калядоўшчыкам дай!

Ой, Сцяпан, заможны пан, ёсць дачка ў цябе,
Калі спіць, дык абудзіць дапаможам яе!
– Мая донейка як сонейка, не спіць ад рання,
Печ тапіла, стол накрыла, прыйдзе ў госці радня.

Цёпла хата, стол багаты і куцця на стале,
Піва маем тры шаночкі, і гарэлкі стае,
А як вып'ем ды закусім, Каляду пазавём
І да хлеба, калі трэба, добру чарку нальём!

***

Я для цябе, каханая Надзейка,
Такую сёння пакажу батлейку,
Якой панам ніколі не зайграю,
Якую для цябе на сэрцы маю.

Я для тваіх вачэй, як неба сініх,
Скажу, як Маці нарадзіла Сына
У жлобку пасярод духмяных зёлак,
Дзе пільнавалі іх спакой анёлы.

А для тваіх, нібыта стрэлы, вейкаў,
Каханая, адзіная Надзейка,
Я раскажу, як тры цары з усходу
Павіншавалі Маці з той нагоды.

Для кос тваіх, што ззяюць спелым жытам,
Расою жнівеньскай і сонейкам палітым,
Распавяду, як вешчуны ў адрыну
Прыйшлі  да Маці і малога Сына.

А для тваіх, нібыта вішні, вуснаў,
Што вабяць, як салодкая спакуса,
Я раскажу з тваёй і Божай ласкі
Найлепшую на гэтым свеце казку.

***

Ідуць Каляды.
Котка на вакне
скрадае сон з-пад крылаў белай птушкі,
Там серпанцін, цукеркі і хлапушкі,
і прынцаў не бракуе ў гэтым сне,
ёсць фея ў ім для кожнай Папялушкі.

Калядны Дзед з каляднаю Казой
ідуць з марозу да святочнай залы,
каб абвясціць пачатак карнавалу,
пакуль яшчэ пад Зоркай залатой
люляе сон Русаллі і Купалу.

Крыламі снег калыску ахіне,
пачне спяваць і мяккай лапай гушкаць.
Заснула Маці.

Хлопчык на падушках
лагодна пасміхаецца ў сне
Калядам, зоркам, феям і хлапушкам

***

Святкуе дні ўзнёслыя Калядаў
Заможная, прыязная Канада.
Святкуе Christmas. Віскі, кола, стэйкі.
А недзе Беларусь, Раство, батлейка.
Я для дзяцей, для Сцівена з Андрэйкам,
Распавяду пра даўнюю батлейку,
Што ладзіў іх прапрадзед на Каляды
Для прапрабабкі ў хаце, дзе прысады.
Пра Беларусь, пра замкі, пра мястэчкі,
Пра дом у месце па-над ціхай рэчкай,
Дзе на гарышчы Сцівена з Андрэйкам
Яшчэ чакаюць лялькі і батлейка.

17–18. 12. 2002, 21– 28.12. 2011

## Вядзьмарка

(паэма)

Сава праляціць над акном, нібы здань, нечакана,
Кугукне над комінам, сядзе на дрэва ў садзе,
Раскрыецца бездань, як шэрыя крылы кажана,
Суботняй апоўначчу ў цёмным глухім лістападзе.

Я буду глядзець у люстэрка на бляклы адбітак
Душы састарэлай, у вочы ўглядацца пустыя,
У твар, што дашчэнту жыццё змалявала, як сшытак,
Дзе снег валасоў і сагнутая немаччу шыя.

Пакліча апоўнач савіным прыдушаным крыкам,
Люстэрка адкажа, заззяе празрыста і жарка
І будзе пранізліва граць, як шалёны музыка,
І музыкай той ператворыць мяне ў вядзьмарку.

Я выйду пад неба глытнуць цішыні і паветра,
Савіным крылом па шчацэ прывітае апоўнач,
Затанчыць спадніца на сцёгнах у юнай кабеты,
Якой невядомы туга і старэчая роспач.

Тады пацягнуся салодка адноўленым целам,
Жыццё распачаўшы ізноў у глухім лістападзе,
Кугукне сава пераможна на дрэве замшэлым
І як абярэг на плячо мне ўпэўнена сядзе.

***

Ноч адыходзіць. Лес. Яшчэ гадзіна
Да раніцы, да заканчэння чараў,
Калі заззяюць елак вяршаліны
І промні сонца зарумяняць хмары.

Плывуць вянкі і свечкі дагараюць,
Рака іскрыцца светлаю палоскай,
Зыходзіць ноч, кароткая, святая,
Пакінуўшы бурштыны божай роскі.

Яшчэ  русалка з туманом гуляе,
Шапоча лес пад гук яе напеваў,
Яшчэ раса сцюдзёнай перлай грае
На травах і кашлатых лапах дрэваў.

Гушчар падлеска яр ад вока крые,
Сюды не знойдуць шлях начныя здані,
У прыцемку пляце вянкі тугія
З чароўных кветак чысты святаяннік.

Я праслізну пад хмызняком ля яра
І ўніз пачну спускацца асцярожна,
Каб не пачулі здані і пачвары,
Што тут вядзьмарка юная варожыць.

Тугіх суквеццяў жоўтыя прамені
У ноч Святога Яна дорыць кветка.
Зусім нямнога – дзве дзявочых жмені
Я назбіраю ў белую сурвэтку.

Не папараць дарue моц і любасць, –
Яна для юру і для жарсці цёмнай, –
А святаяннік  для дзяцей і шлюбу
Купальскай ноччу чыстым зззяе промнем.

Запэцкаю спадніцу і кабацік,
Пячэ далоні роска – слёзка Панны,
Яшчэ на досвітку мне трэба быць у хаце,
Каб не празнаў аб варажбе каханы.

Ляціць сава ў прыцемку дахаты,
А на ўсходзе неба ружавее.
Ярыла скончыў бавіцца ў свята,
Даў чысты святаяннік і надзею.

***

Пад гул хрышчэнскіх маразоў
Празрысты, кволы, нібы смык,
Ля перакуленых вазоў
Панылы ходзіць вадзянік.

Назаўтра край сям'і настане –
На рэчцы зробяць іярдані
І пафарбуюць бураком,
Макнуць зрання крыжы святыя.
А вадзяняткі маладыя
Не могуць свой пакінуць дом.

Схаваны сані пад страху,
Вазы мужык перакуліў,
На чым цяпер кідаць раку,
Як выбірацца і калі?

Заплача вадзянік, замокне
Ды прыйдзе да мяне пад вокны,
Куды пазваў савіны крык,
А ў вядзьмаркі, у красуні,
Даўно вазок стаіць за пуняй –
Вязі маленства, вадзянік!

Хрышчэнскі шчэрыцца мароз,
Снег серабрыць маю саву.
А я ўначы на Божы хрост
Стаўку купальскую траву.

***

### Замова

Ідзі да майго дому, мой каханы,
Ідзі да майго дому, майго дому,
Ідзі да маіх сенцаў цераз ганак
Ды па маіх слядах.

Ідзі да маіх сенцаў, маіх сенцаў,
Ідзі, каханы, да майго парогу,
Нясі сваю душу, душу і сэрца
Пад мой дзявочы дах.

Закрыю тваё сэрца на замочак,
Закрыю на замочак патаемны,
Язык маўчыць, замок ні ў дзень, ні ў ночы
Ніхто не адамкне.

Не будзеш нічыім ужо ніколі,
Не будзеш нічыім ужо, каханы,
Купальская трава цябе зняволіць.
Цяпер належыш мне!

***

Злы груган над полем кружыць
Чорнаю гадзінай.
Пасадзіла дзеўка ружу –
Вырасла шыпшына.

Пасадзіла на вяночкі,
На букецік шлюбны,
На шчаслівы лёс дзявочы,
Выпала – на згубны.

Заварожаны замочак,
Варажба крывая,
Ржа-хвароба не паточыць,
Вадзянік схавае.

Не кляцьбою адамкнулі,
Не разрыў-травою –
Пасяклі ліхія кулі
Грудзі хлопцу-вою.

Грае шлюб у чыстым полі
За красу-дзяўчыну
Смерць-гадзюка, смерць-нядоля
У вянку з шыпшыны.

***

Як запяю, на даху адгукнецца
Сівая жаўтавокая сава,
І так ужо не першы год вядзецца,
Што я жыву – ні дзеўка, ні ўдава.

Я чула, як услед казалі людзі,
Што мне адной да скону векаваць.
Ліхая гамана касцей не студзіць,
Ды з пагалосак не збудуеш гаць.

Мой дом прытулкам стане чужаземцу,
Я ў яго цяпла не папрашу,
Не спакушуся на руку і сэрца,
А забяру гаротную душу.

Пасля, калі пакорліва сагнецца
Прыгожага чужынца галава,

Я запяю, і смехам адгукнецца
На даху жаўтавокая сава.

Ляці, душа, ляці сабе на згубу,
Шукай, душа, у чыстым полі дол,
Дзе спіць, душа, смяротным сном мой любы.
Кляну цябе на хлеб, ваду і соль.

***

У Наўскі Вялікдзень я буду адчайна маліцца,
Каб дом абмінулі праклятыя здані-начніцы,
Замоваю дзверы закрыю, задую пасвет.
На месячнай сцежцы тужліва спяваюць масніцы,
Ад печы да покуці цягнецца прывідны след.

Божа літасцівы, крый магілу макам,
Каб прыйшоў не нактырам, не вурдалакам,
Каб ля веснічак маіх не супыняўся,
Каб як месячык у хаце паказаўся.

Ці гэта трызненне, ці мара, ці ява, ці сніцца?
Ключы залатыя адчыняць святыя крыніцы,
І мёртвыя воды збягуцца з жывою вадой.
На месячнай сцежцы тужліва спяваюць масніцы
Пад крокам да болю знаёмым. Пад наўскай хадой.

***

Варажба мая непрытомная,
Дык нашто была мне яна?
Я гляджу ў твае вочы цёмныя,
Нежывыя і незнаёмыя,
І ў вачах я не бачу дна.
Нібы бездань глянула чорная,

Як груган праз іх паглядзеў,
Як гнілая ціна азёрная,
Нібы ноч глухая, бяззорная
Смокча кроў і душу грызе.
Папрасіла, каб ясным сокалам,
Каб як месячык ля вакна, –
Здань прыйшла і стаіць пад вокнамі,
Смерць маю прывяла далёкую –
Варажбе такая цана.
Адмалю, адвыю галошанне,
Закажу імшу адслужыць.
Не прыходзь да мяне запрошаны.
Рушніком пахавальным з прошвамі
Зацягнуўся лёс на крыжы.

***

Болей не заходзь
Нават мімаходзь,
Я пастаўлю мёд на стале,
Мёд ад ярых пчол,
Толькі б не зайшоў,
Болей не наведаў мяне.
Цеста замясіць
Я ад трох крыніц
Прынясу гаючай вады
І муку сатру
З негарэлых круп,
Каб забыў дарогу сюды.
Расцярушу сум –
Стане мужам кум,
Падмане цябе, падмане,
Каравай пяку,
Аддаю руку –

Болей не прыходзь да мяне!
Адыходзь у твань,
Нежывая здань,
Каравай пастаўлю на стол.
Глуха торкне шкло
Чорнае крыло,
І навек закрыецца дол.

***

Пастарэла мая сава,
Кіпцюры паточаны часам,
Пастарэла і я сама –
Не пяе зямля пад абцасам.

Праляцела жыццё савой,
У касу ўплялося срэбра,
Ільняны апошні сувой
Хутка мне ўпадзе на рэбры.

Не псавала палёў знарок,
Не гарчыла ў полі травы,
Не пляла праклён і сурок
Для вядзьмарскай ліхой забавы.

Не студзіла замовай кроў,
Не будзіла зімой мядзведзя,
Не брала ад чужых кароў
Малако, як другія ведзьмы.

Што ўмела – даваць любоў,
Несла любасць сваю, як ношу,
І замком чароўных замоў
Замыкала кляцьбу і пошасць.

Састарэла мая сава,
Пасівелі слабыя крылы.
Парасце сівая трава
На яе і маёй магілах.

***

Месяц выйшаў і сонца згасла,
Я папраўлю табе падушку,
Пад гучанне чароўнай казкі
Спі салодка, мая дачушка.

Святаяннік купальскай ноччу
Хай табе ў гэтым сне прысніцца,
І яшчэ – як свой лёс дзявочы
Не дагледзела чараўніца.

Спі, маленькая. Зорка-знічка
Сыпле золата на падушку,
І начнік прысеў на палічку,
Нібы сонечная жар-птушка.

Кніжку казак перагартаю.
Спіць дачушка. Я выйду з хаты
І сваю саву запытаю
Пра яе малых птушанятаў.

27.11 – 7.12.2011

## Гародня. Год.

(вянок санетаў)

Як крылы для ахоўнікаў-анёлаў,
З нябёсаў снег сыходзіць навагодні,
Пашые студзень вэлюм для Гародні,
Брыльянты рассыпаючы наўкола.

Дахоўку старажытную пакрые
Наміткай паркалёвай – снегам чыстым,
Настудзіць ледзяшовыя маністы,
Да твару будуць ёй уборы тыя.

Зімовая Гародня маладзее
Ад варажбы сцюдзёнай чарадзея,
Сваволіць студзень, нібы малады

У ноч пасля шыкоўнага вяселля,
І разам з ім у гэтым свяце хмельным
Мой горад не зважае на гады.

***

Мой горад не зважае на гады.
Хай лютаўскімі сцюжамі закуты,
Нядоўга брукаванкай крочыць люты
Над гладдзю шэрай нёманскай вады.

У вузкіх вуліцах няма шляхоў вятрам,
Душу не студзіць лютаўская замець,
Бо грэе сэрца аб мінулым памяць,
Аб тых, што збудавалі першы храм.

Зазвоняць срэбна, нібы завушніцы,
Званы на ўзнёслых храмавых званіцах

Хвалу князёўне з дзіўнага падання,
Аб княжычы той дабравест пальецца.
На Замкавай гары, дзе сэрца б'ецца,
Жыве ў Гародні даўняе каханне.

***

Жыве ў Гародні даўняе каханне
Двух маладых, што заснавалі горад,
Не здрадзілі пачуццям у пакоры,
Не выменялі сытасць за расстанне.

Славянскі год, асвечаны вясною,
У Кіеве змянялі на Каляды,
Князь Манамах аддаў сваёю ўладай
Дачку Агаф'ю княжычу-ізгою,

І – прэч з вачэй, амаль на край зямлі,
Дзе толькі пушчы дзікія былі,
Без права на пасаг і на вяртанне.

Але нашто ім княства і пасаг?
З каханнем поруч крочаць у прасцяг
Малітва, споведзь, радасць, звеставанне.

***

Малітва, споведзь, радасць, звеставанне
Жывуць спрадвек у веснавым паветры,
Пад брукаванкай зноў прачнуцца нетры,
Абудзяць сокі дрэў сваім дыханнем.
Снег пабяжыць з Гародні, быццам нежыць
Ад вострых стрэлаў сонечных праменняў,
Мой горад ажыве для летуценняў,
Гадзіннікам зазвонячы на вежы.

Ён прыгажэе кожнаю вясной,
Убор здымае каралеўскі свой,
Рупліва чысціць паркі і сады,

Каб зацвілі, каб дыхала зямля.
Вясна гады адыме спакваля,
Таму ён застаецца малады.

***

Таму ён застаецца малады,
Што быў сям'ёй на месцы незнаёмым
Задуманы не крэпасцю, а домам,
Каб любасць ратавала ад бяды.

І з тых часоў мой горад нібы дом,
Адкрыты ўсім, – няхай з дабром прыходзяць,
Ніколі не спытае аб народзе,
Аб веры – хто якой, – абы з дабром.

Касцёл, мячэць, царква ці сінагога
Аднолькава прыемныя для Бога,
А разам жыць утульней і лягчэй.

Свой дом, як храм узнёслы, будавалі.
Глядзіць Гародня ў нёманскія хвалі –
Для прыгажосці не стае вачэй.

***

Для прыгажосці не стае вачэй,
Як паглядзіш на Нёман зорнай ноччу,
У шызых хвалях месяц рогі мочыць
І ззяе ў іх прывабней і ярчэй.

Туман народзіць Нёман па вясне,
Каб да старых даховак прытуліцца.
Зялёны пух пупышак красавіцкіх,
Нібы смуга, Гародню паглыне.

Напоўнены вясноваю вадою,
Магутнаю няспешнаю хадою
Праз горад крочыць Нёман, разважае:

Ці то пайсці, ці то пакуль спыніцца,
Вадой напоўніць рэчкі і крыніцы,
Калі цвітуць язмін і бэз у маі.

***

Калі цвітуць язмін і бэз у маі
У парку Жылібера ля фантана,
Стары тэатр у водары духмяным
Афішы пажаўцелыя гартае.

Багата ў іх імён з энцыклапедый
І крыкаў «Брава!», музыкі і кветак,
Амантаў, блазнаў, комікаў, субрэтак,
Балетаў, опер, фарсаў і трагедый.

А колькі словаў трапных і пародый!
А колькі труп за гэтых два стагоддзі!
І кожная па-свойму дарагая.
Сезон закончыць будучае лета,
Але штогод з Рамэа і Джульетай
Гародня нібы ў першы раз кахае.

***

Гародня нібы ў першы раз кахае
У чэрвені, святой купальскай ноччу,
Плывуць вянкі – пасланцы мар дзявочых,
І вогнішча святочнае шугае.

Хавае кветку-папараць Румлёва.
Гародня беражэ свой звычай даўні:
Святкуюць каталік і праваслаўны,
Звініць купальскі спеў на розных мовах.

Па Лесвіцы кахання, стуль – на сцежку,
Пасля да Замка павярне няспешна
Кароткай самай з чэрвеньскіх начэй

Да месца, што каханне ўзгадавала, –
Штогод ідзе ад Нёмана Купала,
Тысячагоддзе скідвае з плячэй.

***

Тысячагоддзе скідвае з плячэй
Штолета старажытная Каложа,
Глядзіць уніз, дзе ў звілінах прыгожых
Рачулка гарадзенская цячэ.

У ліпеньскіх спякотах адпачыць
Мы пойдзем у Швейцарскую даліну,
Хай Гараднiца тчэ свае загіны,
Каб вільгаццю Гародню наталіць.
У гэтай прыгажосці немагчымай
Гучалі словы першыя Максіма
Пад срэбны звон пегасавых падкоў,
Ля камянёў чароўных калажанскіх

Узнёслы гімн Гародні нараджаўся,
Як Песня Песняў з перламі радкоў.

***

Як Песня Песняў з перламі радкоў,
Дзе ёсць пяшчота, розум, моц і веліч, –
Такой Гародню ўбачыў Караткевіч,
Тут прызямліў герояў і багоў,

Іх тут яшчэ не змоўклі галасы,
Іх крокі брукаванка захавае,
А Слова ўзыдзе плённым ураджаем,
І зноўку Спас асвеціць каласы.

Яны цяпер не лягуць пад сярпом
Паніклым, крыва зрэзаным снапом,
Каб на іржышчы гніць капою кволай,

У глебу лягуць, каб расці латвей,
І будзе новы славіць Макавей
Напеў званоў на цэрквах і касцёлах.

***

Напеў званоў на цэрквах і касцёлах
Зліецца ранкам з песняю званка.
У мамінай руцэ твая рука –
Сваіх дзяцей вядзе Гародня ў школу.

Імша ідзе ля Маці Кангрэгацкай,
Каб шчасціла ў навуцы шкалярам,
Каб ведаў будаваўся светлы храм
З адвагай і фантазіяй юнацкай.

Вітай, чарговы навучальны год!
Адказаў, лекцый, практык карагод
Закружыць вальсам вецер вераснёвы.

Пяцьсот гадоў склікае на урок
У храм навукі гродзенскі званок
Гучаннем ці пяшчотным, ці вясёлым.

***

Гучаннем ці пяшчотным, ці вясёлым
Гітары звон над Нёманам нясецца,
І шчырае маёй Гародні сэрца
Пад гэты звон сваё спявае сола.

Кастрычнік панясе па небу хмары,
Вятрамі прабяжыцца па завулках,
Заблытаецца ў пошуках прытулку,
Дажджом ліне на плошчы і бульвары.

Насуперак дажджам, вятрам і слоце
Гучыць гітара на высокай ноце,
Для ўсіх гучыць – чужых і землякоў.

Кастрычнік сёння бавіць карнавалам.
Гародні спеў, нібы з канцэртнай залы,
Ляціць да неба ад сівых вякоў.

***

Ляціць да неба ад сівых вякоў
Анёл на вежы ў небе над Гародняй,
Як пад аблокі ўзнятая паходня,
Ён асвятляе бег яе шляхоў,
Нібыта зніч пачэсны на Дзяды,

Яго ніколі не закрыюць хмары.
Трубіць анёл на старажытнай Фары
І беражэ мой горад ад бяды.

Пазначыць горад вуліцы і плошчы.
У гонар тых ён ахвяруе прошчу,
Чыю яго зямля ўвабрала кроў,

Хто працаваў аддана і натхнёна.
Цвітуць на карце горада імёны,
Нібыта кветкі для святых вянкоў.

***

Нібыта кветкі для святых вянкоў
Збярэцца маляваць на вокнах шэрань,
Узнікне накід, нібы на паперы
Намаляваны лепшым з мастакоў.

Блакітную пакіне шыба цень,
І ў тле блакітным, дужы і прыгожы,
Праз срэбную вітую загароджу
Ляціць высока Губертаў алень,

Крыж залаты нясе паміж рагоў,
Гучыць як песня звон яго падкоў.
Ляціць алень над скутым белым долам
Няспынна, назаўсёды і спакон,
Імчаць за ім віхуры наўздагон,
Як крылы для ахоўнікаў-анёлаў.

## Магістрал

Мой горад не зважае на гады.
Жыве ў Гародні даўняе каханне,
Малітва, споведзь, радасць, звеставанне,
Таму ён застаецца малады.

Для прыгажосці не стае вачэй,
Калі цвітуць язмін і бэз у маі.
Гародня нібы ў першы раз кахае,
Тысячагоддзе скідвае з плячэй.

Як Песня Песняў з перламі радкоў,
Напеў званоў на цэрквах і касцёлах
Гучаннем ці пяшчотным, ці вясёлым

Ляціць да неба ад сівых вякоў,
Нібыта кветкі для святых вянкоў,
Як крылы для ахоўнікаў-анёлаў.

1.06. – 5.07.12

## ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Куль Святлана Яўгенаўна

**Вершы.Байкі. Паэмы.**

Вёрстка **Вольгі Санкоўскай, Аляксандра Рыжага**
Вокладка

Падпісана да друку
Фармат 60х84/16
Ум.друк.арк. Ул.выд.арк
Папера афсетная. Друк лічбавы
Тыраж 99 паас. Заказ

Выдавец і паліграфічнае выкананне
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «ЮрСаПринт»
ЛІ № 02330/1010 ад 31.01.2012 г.
вул. Карла Маркса,11, 230015, г. Гродна
+375 152 7718 20
+375 295 87 84 11